# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1968
Верасень-
Кастрычнік

Год XVI
№ 5 (110)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

Year XVI September-October № 5 (110)
1968

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVI | ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК 1968 | № 5 (110)

# Энцыкліка і „пігулка“

25-га ліпня 1968 г. Папа Павал VI выдаў новую Энцыкліку „Humanae Vitae“ ў справе рэгуляцыі патомства. Гэта ёсьць адказ на вельмі паважнае пытаньне, якое хвалявала ўвесь сьвет. Ужо блізка шэсьць гадоў, як Папа Ян XXIII паклікаў спэцыяльную камісію, каб разважыць гэтую справу. А цяперашні Папа пашырыў камісію, заклікаючы вучоных спэцыялістаў, лекараў, юрыстаў, сацыялёгаў, а таксама тэалёгаў, каб разгледзіць пытаньне з розных бакоў. У Камісію ўваходзілі людзі жанатыя і бацькі вялікіх сем'яў, але і таксама законнікі і законніцы... Праз апошнія 4-ры гады Камісія працавала аддана і шчыра — аж урэшце выдала сваю апінію.

Дзеля таго, што Камісія працавала сакрэтна, дык нельга публікаваць ёйных студыяў: яна была дарадчым органам Паўла VI-га.

*

І наагул каталікі, а болей яшчэ іншыя хрысьціянскія Цэрквы, спадзяваліся, што Папа злагодзіць навуку сваіх папярэднікаў і пазволіць на некаторыя штучныя спосабы ўніканьня патомства, а таксама на «пігулку».

Тымчасам Энцыкліка пайшла па лініі традыцыйнай навукі Каталіцкае Царквы. З гэтага паўстала цэлая бура пратэстаў, крытыкі і сумніваў. А Ватыкан засыпаны лістамі ад розных арганізацыяў — так каталіцкіх, як і іншых рэлігіяў, як таксама і ад прыватных людзей. Выказваюць, што Энцыкліка будзе вялікай перашкодай у вырашэньні праблемы разросту людзтва на сьвеце і асабліва голаду.

Толькі часова прыцiхлі галасы сьвету дзеля новай авантуры сусьветнага значэньня — нападу Савецкага Саюзу на Чэха-Славацыю. А таксама крыху людзі зацікавіліся Эўхарыстычным Кангрэсам у Багоце (Калумбія), куды накіраваўся самалёт з Паўлам VI-ым (23—25 жніўня).

Аднак цяпер зноў усе зьвярнуліся да слаўнай Энцыклікі!

Д-р Рамсэй, галава Англіканскай Царквы, сказаў, што ён справу рэгуляцыі патомства пакідае сумленьню самых-жа сужэнцаў, ухіляючыся гэтым самым ад кіраваньня іх сумленьнем. А пры гэтым падкрэсьліў, што Энцыкліка апозьнівае злучэньне Цэркваў.

Некаторыя каталіцкія сьвятары адмовіліся прыняць Энцыкліку і гэтым страцілі права навучаньня і спавяданьня вернікаў. Праўда, такіх было нямнога.

Затое з паміж некаталікоў былі галасы ў абароне Папы. Казалі, што да нядаўных часаў Англіканская Царква навучала таксама, што штучная рэгуляцыя патомства супярэчыць Божаму праву і вядзе да дэмаралізацыі.

Каталіцкія біскупы наагул сталі на старане Папы: яны тлумачаць, што Папа, як галава Царквы, мае абавязак кіраваць сумленьнем вернікаў. А такіх маральных справаў нельга расстрыгаць большасьцю галасоў, як зрабілі — кажа кард. Гінан — у парляманце, калі пацьвердзілі права на аборт, пазваляючы нішчыць у лоне здаровай маткі здаровае дзіця!

Спадабалася Богу, каб Галава Каталіцкае Царквы меў уладу на зямлі навучаць і расстрыгаць падобныя справы, калі Хрыстос сказаў Пятру:

«Табе дам ключы Нябеснага Валадарства: і што зьвяжаш на зямлі, тое будзе зьвязана на небе; і што разьвязаш на зямлі, тое будзе разьвязана на небе». (Мат. 16, 19).

Але ўчытаемся ў словы самой Энцыклікі! Павал VI гаворыць: «Згодна з людзкім і хрысьціянскім паняцьцем сужэнства, Мы мусім яшчэ раз паясьніць і аб'явіць, што беспасрэдні перарыў працэсу раджэньня ўжо пачатага, а перадусім проста замераны аборт, нават дзеля рацыі лячэньня, ёсьць абсалютна выключаны недазволены сродак рэгуляцыі патомства. — Таксама забаронена, як Царква

аўтарытатыўна часта навучала, беспасрэдняя стэрылізацыя, сталая ці часовая, мужчыны ці жанчыны. — Таксама ёсьць выключаны кожны чын — ці то перад актам у сужэнстве, ці па выкананьні яго, ці то ў часе разьвіцьця яго натуральнага выніку, калі-бы гэты чын — ці як сяродак ці як мэта — рабіў пачацьце немагчымым».

Як відаць з гэтых слоў, усялякая форма штучнай рэгуляцыі раджэньня — ці то былі-б «пігулкі», ці што іншае, ёсьць акцыяй маральна недазволенай.

Аднак Энцыкліка выясьняе, што карыстаньне з актаў у жанімстве ў часе, калі пачацьця ня бывае, ня ёсьць грэшным, бо гэта не пярэчыць праву натуры. І Папа заклікае вучоных і лекараў, каб яны далей вывучалі людзкі арганізм і паўстаньне жыцьця ў пачацьці, дзеля таго, каб выкарыстаць гэта для рэгуляцыі патомства.

*

Далей Папа кажа, што некаторыя думаюць, што штучная рэгуляцыя патомства прычыніцца да таго, каб паменшыць разрост людзей, а гэтым таксама адсунуць небясьпеку голаду і інш. цяжкасьцяў жыцьця. — «Але — кажа Папа — нельга тварыць зло дзеля дабра». І грэх заўсёды ўканцы прычыняецца да большага няшчасьця. Павал VI ведае аб палажэньні ў сьвеце і вельмі спачувае і памагае галодным. Ад самага пачатку свайго ўрадаваньня Папа заклікае ўсіх, асабліва каталікоў, каб шукалі спосабу і дарогі, як памагчы няшчасным — згодна з Божымі прыказаньнямі.

Выказвае Папа, што штучнае рэгуляваньне патомства ёсьць праціўнае годнасьці чалавека, асабліва жанчыны, пазбаўляе сям'ю сапраўднай любові і ўзаемнай пашаны. Такая штучнасьць праціўна самой натуры жанімскага акту, які Бог устанавіў дзеля дабра чалавецтва ў раджэньні дзяцей. Асабліва такжа горшыцца такім прыкладам старшых маладое пакаленьне, якое тымбольш будзе шукаць здаваленьня асабістага і дагаджаньня сваей сапсаванай натуры.

Ня ёсьць выключана, што не адна дзяржава скарысталась-б з падобных сродкаў — прымусовых і штучных — у сваіх эгоістычных мэтах — эканамічных ці палітычных, каб аграніяць патомства слабейшых і меншых народаў. І якім чынам мог-бы хто супрацівіцца такой палітыцы захопнікаў, каб на такія сродкі пазваляла Царква ? !

*

Дзеля гэтага Каталіцкая Царква, бароніячы Божага права, ахоўвае гэтым самым сапраўдную цывілізацыю сьвету, выхоўвае чалавека да душэўнага разьвіцьця, да адказнасьці за сябе і за другіх.

Нарэшце Папа зьвяртаецца да вучоных, да лекараў і да ўсяго мэдыцынскага пэрсаналу, каб з любоўю ратавалі чалавецтва ў яго недамаганьнях- — згодна з Эвангэльлем і вымогамі хрысьціянскае этыкі. Пасьля да біскупаў і сьвятарсў, каб былі добрымі праваднікамі ў справах душы чалавека і людзкіх сем'яў, у выхаваньні дзяцей і моладзі — з любоўю і адданьнем, — каб тварыць сапраўдны «Божы народ» — на Божую хвалу і шчасьце людзей.

Павал VI зьвяртаецца з гарачым заклікам да мужоў і жонак, каб тварылі нармальныя хрысьціянскія сем'і паводле Божых загадаў і пад духовым праваднiцтвам Царквы, якой загадаў Хрыстос «вучыць усе народы». Бо сам Хрыстос казаў да апосталаў: «Хто вас слухае, Мяне слухае, а хто вамі пагарджае, Мной пагарджае».

Да гэтага «Вялізнага Дзела», як Папа яго называе, — выхаваньня чалавека і сям'і, — заклiканы ўсе людзі добрай волі, асабліва мужы і жоны ,а таксама лекары і вучоныя, а таксама і тымбольш біскупы і сьвятары.

І ўсім ім — на знак сваей бацькаўскай любові — Павал VI-ты дае, прызываючы Божае міласэрдзе, сваё апостальскае багаславенства.

Усім тым, якія так затрывожыліся і загаласілі, што Энцыкліка прычыніцца да яшчэ большага перанасяленьня і да ўзросту голаду на сьвеце, мы хочам зьвярнуць увагу на тое, што небясьпека ўзросту людзтва наймenш датычыць нашай белай расы. Наадварот, белая раса ўжо даўно ўводзіць у практыку штучнае агранічэньне патомства і ўжо ад пачатку XX-га стагодзьдзя нашая раса пайшла на рэгрэс — на адступленьне. А Францыя прыняла практыку, каб усялякіх эмігарнтаў называць «французамі» і ўлівць у сваю нацыю, бо інакш самі сабой французы — без даплыву чужынцаў — маглі-б проста зьнікнуць.

Але сапраўды вялізная небясьпека разросту людзтва пагражае толькі з боку народаў каляровых ці зьмяшаных — мэтысаў, — чорных, жоўтых, кавовых і іншых. І гэтыя ўжо ўвайшлі ў катастрофу немагчымага голаду, які праз іх пагражае ўсяму сьвету. А прытым гэта людзі пераважна не даткнёныя яшчэ культурай, дык ані гэтая Энцыкліка, ані іншыя добрыя рады, ні ў чым памагчы ня могуць. Асабліва гэта датычыць Індыі, дзе «сьвятыя» каровы, малпы, а нават «сьвя-

тыя» пацукі пажыраюць прысланую з Амэрыкі пшаніцу. —

Дык вось дзе хаваецца пагроза і з чым трэба змагацца — замест траціць час і энэргію на дарэмныя ляманты супраць Энцыклікі!

І яшчэ дзіўная праява — гэты так званы, бунт маладога каталіцкага духавенства і недавучаных «міні-тэалёгаў», якія адначасова выступаюць з пратэстамі супраць разросту людзтва і супраць цэлібату духавенства! А ці-ж, калі сьвятары будуць жанатыя, дык ад гэтага народ будзе зьмяншацца?

Сапраўды, гэтыя збаламучаныя галовы балбочуць — самі ня ведаюць што!

*

І ў апошнім часе зьяўляюцца перасьцярогі і «добрыя рады» Паўлу VI, к а б  а д к л і к а ў сваю рызыкоўную Энцыкліку, бо — кажуць, што страціць свой папскі аўтарытэт. Можа нават узьнікнуць вялізная гарэзія, як было за часоў Лютэра або народ павернецца да атэізму, ці да чаго іншага ? . .

Гэтая перасьцярога ўжо пасьпела напужаць баязьлівых каталікоў і гэта адбіваецца ў каталіцкіх газэтах і часапісах.

Саўпраўды, калі падумаем, дык справа паказваецца вельмі невясёла, — так што нават самыя цьвярозыя людзі сумневаюцца, ці ня лепш было-б гэтай Энцыклікі ня выдаваць?

Аднак, калі добра разважым і лепш учытаемся ў Эвангельле, дык тады можам супакоіцца і даручыць усю справу самому Госпаду Богу. Бо і Хрыстос меў у сваей практыцы падобную сыстуацыю, калі — пасьля размнажэньня хлябоў на пустыні — назаўтра ў Кафарнауме хацеў прыгатаваць народ да таямніцы Сьвятой Эўхарыстыі. Але той чэрствы народ, хоць еў на пустыні цудоўны хлеб, тут не захацеў услухацца ў Хрыстовую навуку і пачаў наракаць, а нават адкідаць Гасподнія словы. І вось пачалі разыходзіцца . . . І нават многія з ягоных вучняў, — аж Хрыстос спытаўся апосталаў: «Ці ня хочаце і вы адыйсьціся?» (Ян, 6. 67).

І адказаў яму Сымон Пётр: «Госпадзе! да каго нам ісьці? Ты маеш словы вечнага жыцьця: і мы паверылі, і пазналі, што Ты Хрыстос, Сын Бога жывога».

І падобная сытуацыя паўтаралася і пасьля, паміма цудаў і паміма таго, што самі ў энтузыязьме называлі Хрыста царом Ізраіля, але скора забываліся і крычалі Пілату: «Укрыжуй яго ! . .» — І сапраўды адракліся свайго Мэсыяша і ўкрыжавалі яго.

Значыць магчыма, што і цяпер каталіцкі народ мог-бы адвярнуцца ад свайго Папы, бо кожны чалавек мае вольную волю . . . — Але ці дзеля гэтага Папа павінен у важных хвілінах маўчаць і не аб'яўляць навукі жыцьця і абычаяў, калі яго ўвесь народ пытаецца ? -

Дык і ў гэтым выпадку, калі Павал VI чатыры гады разважаў, маліўся і маўчаў, але нарэшце сказаў  с л о в а, якое людзям не спадабалася, бо яно труднае і, здаецца, немагчымае, — дык ці-ж Папа павінен узяць гэтае няпрыемнае слова  н а з а д ?

Вось-жа чытайце словы сьв. Паўла апостала да Цімафея: «Будуць людзі самалюбнымі, срэбралюбцамі, пышнымі, гордымі, зламоўнымі, непаслухмянымі . . . будуць больш любіць раскошу, чым Бога . . . (II да Цімафея, 3, 2-8)».

«А ты трывай у тым, чаго навучыўся і што табе даверана . . . Прапаведай слова, настаівай у час і ня ў час, дакарай, пагражай, прасі з усенькай цярплівасьцяй і навукай . . . Будзь чуйны ў-ва ўсім, цярпі і гора, рабі дзела Эвангельля, служэньне тваё выпаўняй!» (3, 14; 4, 2-5).

Ці-ж ня гэтак паступае і наш Павал VI-ты?

*Д. Анісько*

# ЧАМУ ТРЭБА ШАНАВАЦЬ РЭЛІГІЮ?

З жыцьцёвых прыкладаў мы бачымо і чуем ад людзей і чытаем у прэсе, што тыя людзі, якія ня хочуць знаць рэлігіі, аб яе не дбаюць, ня любяць і не шануюць, калі спадзе на іх якое няшчасьце, дык часта упадаюць у роспач, дапускаюцца самагубства, (як Юда Іскарыёт), ці блюзняць або трацяць розум.

Так! Бо бяз веры ў Бога, бяз рэлігіі чалавек не мае на што абапёрціся, каб дайсьці да раўнавагі: не знаходзіць ні пэўнай дарогі, ні пацехі ў сэрцы, каб выйсьці з няшчасьця, ці пагадзіцца з ім, пакараючыся Божай волі.

Але што сказаць аб тых, якія выразна шкодзяць рэлігіі, змагаюцца з верай і адбіраюць яе ў людзей ці нават прасьледуюць рэлігію і Царкву?

Такія ворагі рэлігіі сьцягваюць на сябе цяжкую адказнасьць перад Богам, перад судом гісторыі і прад чэсным грамадзтвам: яны паступаюць супраць здаровага розуму і супраць права Божага і чалавечага.

Няхай міласэрны Бог дасьць ім сваю ласку, каб упакорыліся і навярнуліся: гэта выйдзе на дабро для іх самых, а таксама і для грамадзтва.

Хто верыць у Бога і рэлігійныя практыкі спаўняе разумна, шчыра і вытрывала, дык такі чалавек ня толькі ня будзе шкодным для грамадзтва, але зьяўляецца самым карысным, пазытыўным дзейнікам у сям'і і дзяржаве, хоць якраз такіх людзей камуна ня цэніць, а нават прасьледуе. — У сваім засьляпленьні атэісты прычыняюць крыўды самым найлепшым грамадзянам у дзяржаве.

Аж даходзіць да таго, што ў сваей блуднай ідэі і дзеля нялюдзкай сыстэмы, ня толькі змагаюцца з рэлігіяй, але ўкладаюць усе свае сілы, каб нявінных людзей абдзіраць з чалавечай годнасьці, дакучаць ім і надарэмна мучыць. Так атэізм перараджаецца ў поўную бязбожнасьць: ламаюць права Божае і чалавечае, пазбаўляюць народ волі і долі, — праліваецца мора сьлёзаў . . . І на што гэта ўсё? Якая каму з гэтага карысьць? —

Яшчэ старадаўны Плятон высказаў думку: «Хто нішчыць рэлігію, той падкопвае фундамант чалавечага грамадзтва».

А для кожнага паасобнага чалавека рэлігія — вера ў Бога — зьяўляецца непахіснай, трывалай апорай у самых цяжкіх абставінах жыцьця і памагае перамагчы ці перацярпець гора і нядолю.

Каб зьнішчыць рэлігію, атэісты тасуюць тысячы спосабаў уціску і прасьледу: не шкадуюць срдокаў мэтар'яльных, упрагваюць усе сродкі прапаганды — самай навачаснай, як радыё і тэлевізія, але ім усяго гэтага мала, дык тасуюць жорсткі прымус і тэрор!

Калі ты пракананы ў сваей праўдзе, дык дакажы гэта! І дай магчымасьць веручым бараніць рэлігію, бо сіла — гэта ня ёсьць аргумант культуры, але тактыка дзікіх зьвяроў.

Так, рэлігію трэба шанаваць — сваю рэлігію і прakананьне іншых чэсных людзей: пашана рэлігіі —гэта ёсьць азнака сапраўднай культуры чалавека і грамадзтва.

---

*а. Фэлікс Журня*

# Сустрэча раздзеленых хрысьціянаў

У днях 2—19 ліпня г. году ў гор. Упсаля ў Швэцыі адбылася нарада Сусьветнай Рады Цэркваў, да якой належаць 232 Пратэстанцкія Цэрквы і Праваслаўная Царква.

На гэтае сабраньне прыбыло 800 дэлегатаў. Былі запрошаныя тақжа каталікі, хоць Каталіцкая Царква не належыць да гэтай Рады. На папярэдніх Радах каталікі належылі як абсэрватары, а на гэтай мелі права голасу ў дыскусіі і маглі праводзіць прэлекцыі, аднак у галасаваньні ня бралі ўдзелу.

У характары абсэрватараў і гасьцей ад розных веравызнаньняў, народаў, расаў і краін з цэлага сьвету сабралася да 2 тысяч асобаў. Такі зьезд хрысьціянаў стварыў вельмі мілы настрой, што заахвоціла ўсіх да еднасьці і збліжэньня асабістага, а таксама і ў паглядах, бо прысутныя пабачылі, як многа дабра магчыма было-б злучанаму хрысьціянству зьдзеіць на сьвеце!

Зьезд пачаўся ўрачыстай Літургіяй ў пратэстанскай сьвятыні. Уступную прамову меў д-р Т. Нілес з Цэйлёну, прэзас Хрысьціянскай Канфэрэнцыі Усходняй Азіі. Зара пасьля яго меў прамаўляць д-р Л. Кінг, якога на жаль забілі расісты ў Амэрыцы. Галоўнай думкай усяго Зьезду былі словы Сьвятога Пісьма: «Вось я твару ўсе рэчы новыя» (Апокал. 21, 5).

*

Былі разважаныя і жыва дыскутаваныя такія праблемы: 1) Дух Сьвяты а каталіцкасьць Царквы. 2) Абнова Місіяў. 3) Сусьветнае Эканамічнае і сацыяльнае разьвіцьцё. 4) Аб справядлівасьці і супакоі ў міжнародных справах. 5) Служба Богу і ляіцызацыя сучаснага жыцьця. 6) Аб новым стылі жыцьця.

Усе гэтыя праблемы перш разважалі асобныя сэкцыі, якія падрыхтоўвалі матар'ял для дыскусіі на агульных сабраньнях. А на дыскусіях разважаліся справы сусьветнага характару — сацыяльныя, нацыянальныя, палітычныя і гаспадарчыя. Некаторыя прамоўцы гаварылі вельмі жыва — аб вайне ў Вьетнаме, аб расізьме ў Афрыцы і аб голадзе на сьвеце. Іншыя рабілі закід хрысьціянству, што не спаўняе сваей місіі ў адносінах да патрэбаў сьвету і неспрядлівасьці на ім.

Яшчэ іншыя апэлявалі аб помач для бедных народаў — ня ў форме пазыкі, але бескарысьлівай помачы, чаго так моцна дамагаў-

ся Папа Павал VI ў Энцыкліцэ «Progressio Populorum».

Былі станоўкія галасы, каб хрысьціяне прычыніліся да злучэньня народаў і каб забясьпечыць трывалы супакой на сьвеце. Прытым некаторыя заўважалі, што вельмі трудна дамагацца лучнасьці між народамі, калі самі хрысьціяне ня могуць злучыцца.

Была таксама мова аб свабодзе рэлігіі за «жалезнай заслонай» і былі пэўныя аллюзіі да прысутнага прадстаўніка Праваслаўнае



*а. Ф. Журня — заступнік рэдактара*

Царквы, Мітрапаліта Нікадзіма, што ён выступае больш у характары палітычнага прапагандыста чым царкоўнага прадстаўніка. А ён між іншым сказаў, што паміж Царквой і савецкай уладай нельга ўладзіць дыялёгу, бо яны маюць супрацьлеглыя пагляды, якіх пагадзіць немагчыма.

Можна сказаць, што ў гэтых дыскусіях, як у люстры, адбіліся сучасныя патрэбы чалавецтва: узаемныя жалі хрысьціян на несправядлівасьць расавую, нацыянальную і гаспадарчую. Тут аказалася сучасная рэчаіснасьць людзкога жыцьця з яго цярпеньнямі і адначасна штораз большая сьведамасьць і пачуцьцё адказнасьці за гэты ненармальны стан, што «мы — хрысьціяне самі вінаватыя . . .»

Як калісьці Хрыстос ішоў на спатканьне людзкіх патрэбаў, дык тое самае павінна рабіць ягоная Царква, але яна ёсьць вельмі слабая праз сваё разьбіцьцё. Найбольш уражлівым аказалася маладое пакаленьне, якое рэпрэзэнтавала 150 удзельнікаў: з іх боку адзываліся галасы: «Досыць дыскусіі, а трэба брацца за справу!»

*

Далей у дыскусіі перайшлі да тэмаў рэлігійна-тэалягічных. Разважалі, ці належыць Хрыстовую Царкву называць «каталіцкай»? Пратэстанты прапанавалі назву «унівэрсальная». Разважаючы аб ролі Сьвятога Духа, яшчэ больш бачылі патрэбу еднасьці і дайшлі да выснаву, што еднасьць ёсьць дарам Сьвятога Духа, значыць, да гэтага дару трэба ўсім імкнуцца.

Трэба прызнаць, што прысутнасьць Праваслаўнай Царквы вельмі пашырыла сям'ю цэркваў і ўнесла новыя думкі, праблемы і нават цяжкасьці ў справе еднасьці цэркваў. Можна спадзявацца, што гэта прычыніцца да лепшага зразуменьня, якая вялікая розьніца ў веры існуе паміж каталікамі і праваслаўнымі, а пратэстантамі. І пратэстанты лепш адчуюць свае недахопы і ўзбудзіцца жывейшая цяга да лучнасьці ў Хрысьце.

*

Зусім неспадзявана ўзьнікла справа ўдзелу ў Сьвятой Эўхарыстыі — «інтэр-камуніі» — Сьвятога Прычасьця. І гэтая справа найбольш паказала, якая існуе вялізная прорва ў хрысьціянстве, — як далёка адыйшлі некаторыя цэрквы ад самай крыніцы веры, Сьвятой Камуніі! Такая розьніца — гэта балючая рана ў хрысьціянстве.

Калі нават само слова «Камунія» паказвае на лучнасьць, дык гэтая Сьвятая Тайна стала прадметам падзелу і нязгоды . . . Так нарушаны Запавет Сьмерці Хрыстовай і ягонага Уваскрашэньня!

І вось, калі адбывалася пратэстанская служба і раздавалі прычасьце, дык каталікі і праваслаўныя, хоць прыбліжаліся да аўтара, аднак не прычашчаліся, за выняткам пару каталіцкіх сьвятароў, якія пасьля тлумачыліся, што не маглі паўстрымацца дзеля агульнага настрою і пачуцьця хрысьціянскае супольнасьці.

Пасьля была дыскусія на гэтую тэму: каталіцкія тэалёгі тлумачылі, што прыняцьце тайнаў бяз праканаьня ёсьць зьнявагай, а ня лучнасьцяй у веры і нельга гэтага тварыць дзеля людзкога вока ці з лёгкадумнасьці.

Вельмі важнай справай было тое, што стварылася магчымасьць бліжэй пазнаць сябе ўзаемна і каталікі маглі свабодна выясьняць, як Каталіцкая Цэрква разумее Хрыстовую

навуку. А якраз здарылася вельмі добрая нагода для супрацоўніцтва, бо тут сабраліся прадстаўнікі цэлага сьвету і розных веравызнаньняў.

*

Папа Павал VI прыслаў удзельнікам Зьезду прывітаньне і пажаданьне найлепшага посьпеху ў працы, а таксама запэўніў, што і далей Каталіцкая Царква будзе супрацоўнічаць у справе еднасьці. Папскае слова і дакумант зрабілі вельмі добрае ўражаньне на ўдзельнікаў.

Праўда, «Вызнаньне Веры», якое Папа абвесьціў 30-га чэрвеня з нагоды заканчэньня Году Веры, стварыла пэўнае незадаваленьне сярод кругоў пратэстанцкіх, асабліва іх тэалёгаў. Арцыб. Рамсэй сказаў, што досыць ёсьць цяжкасьцяў з прыняцьцем праз усіх Нікейскага Сымбалю Веры, а тут Папа дадае яшчэ другія праўды . . .

Гэтая рэакцыя паказвае, што іншаверцы, асабліва пратэстанты, спадзяваліся нейкага кампрамісу і ўступак з боку Каталіцкае Царквы, каб гэтым памагчы злучэньню.

Тымчасам Катал. Царква прызнае, што праўды веры дадзеныя Богам, а Хрыстос паручыў іх Царкве, каб захавала і навучала. Дык Царква не мае права рабіць уступкі, ані зьмяняць паводле часу і патрэбы іншых веравызнаньняў. А кожны чалавек мае розум і вольную волю прыймаць або адкідаць нашую Царкву і яе навуку.

*

Гэты Зьезд Сусьветнай Рады Цэркваў, хоць ня вынес ніякіх паважных пастановаў у духу экумэнізму, але быў вельмі карысны ў гэтай справе. Тут выясьніліся некаторыя праблемы, прадстаўнікі Цэркваў лепш пазналі труднасьць экумэнічнай працы і дарогу, якая вядзе да злучэньня. А такжа зразумелі патрэбу бязупыннай і пакорнай малітвы, каб Госпад Бог прасьвяціў Духам сваім Сьвятым духавенства і ўвесь хрысьціянскі народ.

«І народы збаўлёных будуць хадзіць у сьвятле . . .» (Апокал. 21, 24).

---

*Я. Савіцкі*

# Хто лепшы — цар ці камісар?

Бязбожны часапіс «Навука і Рэлігія» (№ 6, 1968) шырока выхваляе «свабоду» рэлігіі ў СССР. У артыкуле «Ленінскія прынцыпы свабоды сумленьня» аўтар піша, што Ленін надта грымуча асуджаў даўнейшыя царскія парадкі у Расеі і што тады «ні аб якай свабодзе сумленьня не магло быць і мовы». І Ленін называў законы Расейскай імпэрыі аб рэлігіі і Царкве «Самымі несправядлівымі, самымі гвалтоўнымі, самымі ганебнымі».

Як мы бачым, Ленін справядліва абураўся на цара. Але паўстае пытаньне: «Хто быў лепшы — цар Мікалай, ці камісар Ленін?».

Цары прыгняталі старавераў, каталікоў і жыдоў, а ўзвышалі Праваслаўную Царкву, як сваю рэлігію. І, праўда, што царскія законы былі «гвалтоўныя, несправядлівыя і ганебныя», як называў іх Ленін.

Аднак тое прынамсі было лепшае, што цары навязвалі сваю «казённую» веру, але гэта была вера ў аднаго Бога і была хрысціянская Царква. А бязбожнік Ленін навязваў а т э і з м — замест веры ў Бога, дый сам Ленін і ягоныя наступнікі пачалі жорсткі *прасьлед рэлігіі пад маркай поўнай свабоды:* гэта трывае да апошняга часу.

Найперш Ленін накінуўся на Праваслаўную Царкву: на храмы, на асобы — на япіскапаў, сьвятароў і на манахаў. У гэтым Ленін зраўнаваўся з рымскім імпэратарам Нэронам. Апрача ўрадовага прасьледу і цэнтральных дакрэтаў, арыштаў і расстрэлаў, ішоў разгром Царквы з боку мяйсцовых уладаў і ад раз'юшанай чэрні — цёмнага натоўпу, які кідаўся на царскіх урадоўцаў, на інтэлігенцыю і на духавенства. Тады ўсе варожыя сілы злучыліся ў адно: разьбівалі храмы, аўтары, нішчылі іконы, палілі бібліятэкі і архівы. Так з 1000 манастыроў ледзь асталося некалькі для рэпрэзэнтацыі і паказу для заграніцы. Змарнавана маса вартасных і памятных старавечных будынкаў і шэдэўраў жывапісу, мастацтва, разьбы і інш. неацэнных аб'ектаў.

*

Калі да рэвалюцыі ў гарадах бывала па некалькі або па кальканаццаць цэркваў, а ў Маскве «сорак-саракоў» (40 × 40), дык цяпер асталося паўтара дзесятка менш паважных, а сама Масква вырасла з 2-х да 7-мі мільёнаў чалавек!

Тады паўстае пытаньне: «Як мог такі Ленін, найбольшы філёзаф камуны, як бальшавікі называюць «Мудры Ленін», так напа-

даць і ганьбіць цара за прасьлед рэлігіяў, калі сам стаў бязьмерна горшым?» А прытым рэклямуюць па ўсім сьвеце «свабоду» сумленьня ў СССР!

Толькі ў байках кажацца, што кацёл сьмяяўся з гаршка, бо ён — чорны і абсмалены. А гаршчок адказаў: «А які ты сам?!' Бо кацёл быў яшчэ горш умазаны сажай...

А ў Біблії гаворыцца, што д'ябал прыкінуўся прыяцелям першых людзей і ўвёў іх у цяжкі грэх. І самога Хрыста д'ябал спакушаў, як добры прыяцель, — пакуль Хрыстос не прагнаў яго: «Ідзі вон, шатан!» І некаторым сьвятым паказваўся д'ябал у постаці анёла...

Таксама і цяпер нячысты дух — у асобах савецкіх камуністаў — сьветчыць заграніцай, што ў Савецкім Саюзе існуе свабода сумленьня і рэлігіі...

Значыць, калі Ленін называў законы царскага ўраду (ў адносінах да іншых рэлігіяў) «самымі несправядлівымі, гвалтоўнымі і ганебнымі», дык аб Леніне і ягоных законах трэба дадаць, што яны самыя крывадушныя, падступныя і нікчэмныя!

А хоць у пісаных законах камуна гаворыць аб свабодзе рэлігіі, дык у практыцы — у жыцьці — прасьлед вядзецца ад 1917—50 гадоў: Праваслаўная Царква мае, праўда, ад пачатку ІІ-ой вайны афіцыяльную палёгку; але ані каталіцкая, ані магамэтанская, ні жыдоўская рэлігія ніякага аслабленьня ад прасьледу не дастала.

Бязбожнік Сталін, хоць сам быў ахрышчаны ў Царкве, а нават змоладу вучыўся на праваслаўнага сьвятара, то аднак быў выгнаны з духоўнай сэмінарыі ў Тыфлісе. А, як дарваўся да ўлады, дык стаў найбольш зацятым ворагам рэлігіі!

*

Расейскія цары былі праціўнікамі іншых Цэркваў — гэта праўда, але прынамсі і ў тэорыі і ў практыцы былі аднолькавыя; а заграмічны сьвет аб гэтым ведаў і спачуваў старaверам і каталікам. І розныя кары — высылка, турмы і штрафы — ня былі такія высокія і доўгія, як у камуне і ня былі такія суровыя, дый ня бывала такой галадухі, як у Саветах.

Нярэдка можна было дастаць палёгку праз узяткі ці паблажлівасьць царскіх урадоўцаў ці даглядчыкаў. І наагул даўнейшы расейскі народ меў мягчэйшае сэрца і часта, спагадаючы зьняволеным ці высланым, памагаў яўна ці таемна. А з турмаў ці высылкі магчыма было часьцей пісаць да родных і знаёмых, а праз іх заграніцу, просячы помачы і такая помач прыходзіла і падтрымлівала няшчасных.

Усё гэта пры Саветах адпала або скарацілася. Як мог замкнёны ці сасланы вязень атрымаць помач, калі ў турмах лісты забароненыя, а ў лягерах пазволены толькі два лісты ў год!?

Пры цару Сталін 5 разоў уцякаў з Сібіру, а Ленін у царскіх турмах пісаў свае рэвалюцыйныя кніжкі.

А ў Саветах нашыя сьвятары, атрымаўшы па 10 ці па 25 гадоў турмы і лягераў, найчасьцей там і пагінулі або вярнуліся з зламаным здароўем.

*

Каб параўнаньне было больш яснае, прапаную Паважанаму Чытачу яшчэ раз прачытаць мой папярэдні артыкул (№ 4 — 109), «Прасьлед рэлігі ў СССР і ў Беларусі». І мушу перапрасіць Чытачоў, бо мне здаецца, што я даў ня зусім трапны загаловак гэтаму артыкулу — «Хто лепшы?...» Бо трэба было даць — «Хто горшы» ці «Хто больш нялюдзкі?» — Але ўсёроўна Ленін на гэтым ня выйграў-бы, і — спадзяёмся — Бог дасьць незадоўга той час, калі і Камісар Ленін будзе выкінены з свайго маўзалеум у Маскве, а нават з большаю пагардай, чым Сталін!

---

## ДУМКІ З ПРАЧЫТАНЫХ КНІЖАК

Я нарадзіўся ад сваей маткі, а яна ад бабкі, ад прабабкі; а самая апошняя ад каго? І я нямінуча прыходжу да Бога.

Ногі — ня я, рукі — ня я, галава — ня я, пачуцьці — ня я, нават думкі — ня я: дык што-ж я? Я — я. Я — душа мая!

І з якога-бы боку я ні прышоў да Бога, будзе тоесамае: пачатак маей думкі, майго розуму — Бог; пачатак маей любові — Ён-жа.

Тое самае з паняцьцем аб душы. Ці зьвярнуся я да свайго імкненьня да праўды, і я ведаю, што гэтае імкненьне да праўды ёсьць нематар'яльная падстава мяне — мая душа; ці зьвярнуся да пачуцьця сваей любові да дабра, я ведаю, што гэта любіць мая душа.

(«Крытика Догмат. Богословия», бач. 100).

Чалавек хоча быць або зьвяром, або анёлам, але ня можа быць ні тым, ні другім.

І якраз тут зьяўляецца разрашэньне тае супярэчнасьці, якое дае хрысьціянскае навучаньне. Яно кажа чалавеку, што ён ні зьвер, ні анёл, але анёл, які родзіцца ад зьвера, — духоўная істота, што родзіцца ад зьвера. Што нашае прабываньне ў гэтым сьвеце ёсьць нічым іншым, як гэтым нараджэньнем.

Леў Толстой

*К. Чабатар*

# Што край — то абычай

На Беларусі быў абычай прыносіць у царкву ў Вербную нядзельку галузкі вярбы. А як у тым часе яшчэ бывае сьнег, дык перад тым сьвятам ставілі галузкі ў ваду на добрых пару тыдняў раней — аж выпускалі лісткі...

Дзяўчаты яшчэ прыбіралі іх кветкамі-паперкамі. А выйшаўшы з царквы, старэйшыя людзі ў жартабліва-паважным настроі шлёпалі адзін другога па плячах і прыгаварвалі;

*Вярба б'е — не я б'ю. За тыдзень — вялікдзень!*

*Хворы ў лес — на верас. —*

*Будзь здаровы як вада, а вясёлы як пчала,*

*А расьці як вярба!..*

Ну, а мы — «падшыванцы» вырэзвалі найдаўжэйшую галіну і хлясталіся да сьлёзаў. Бяда была дзяўчаткам! Ня толькі рассякалі панчошкі, але й да скуры даходзіла — аж панчошкі ружавелі...

На ўсеначную стралялі ўсю ноч, пускалі ракеты — прыгожыя, каляровыя.

*

У Баварыі (1943—49) я не бачыў ні аднае вёсачкі, каб ня было кірхі-касьцёла. — Там назіраў такі абычай:

На Вербную несьлі не галузкі, як у нас, але цэлыя дрэвы! І чым багацейшы бавар-гаспадар, тым большае нёс, а часта нават у двох несьлі на плячах. Прытым дрэва багата прыбіралі каляровымі стужкамі, хоць яны ўжо ў іх былі ў сваіх лістках. І гэта ня былі вербы, але, як у нас называюць, верба-лозіны.

Дзеля таго, што ў іх няма збытку лясоў і дрэваў, дык кожны год тую сваю вербалозіну пасьля царквы адсаджваюць у сыры грунт і яна расьце дальш, каб на другі год зноў дайсьці да кірхі. Дык ня дзіва, што за колькі год вырастае добрае дрэўца!

Ад самага раньня на Вербную цягнецца здалёку цэлая працэсія з гэтымі дрэвамі, становяцца шпалерам прад кірхай і кожны падтрымлівае рукой сваё дрэўца. Пасьля сьв. літургіі сьвятар выходзіць з працэсіяй і кропіць сьв. вадой гэтыя дрэўцы. Тады асобнымі групкамі вяртаюцца назад з прыгожымі царкоўнымі сьпевамі. Калі-ж пры гэтым дзяўчаткі — вельмі прыгожа адзетыя і сьпяваюць таксама цудоўна, — дык я падоўгу стаяў, наглядаючы-слухаючы, як аддаляліся грамадкі народу — то зьнікалі ў прагалінах, то паказваліся на ўзгорках, а песьні заціхалі і млелі, а мне ўспаміналася нашая дарагая Беларусь! і нашыя хлапечыя жарты... —

Аж бачу, што баварцы маюць свае ўцехі-жарты: ля касьцёла ставіцца адумысловая печ, пылае агонь. А хлопцы «падшыванцы» трымаюць у руках прыгатаваныя палкі-ражны з добрай булавою на канцы: падбягаюць да печкі, напальваюць кожны сваю булавешку і ідуць у бой, як на шпады. Кожны стараецца выбіць другому: наступаюць, адбіваюць... Як няма ўжо іскраў, тады зноў напальваюць, — і гэта трывае да позняе ночы: ведама, крыку і сьмеху няма канца!

Цікава, што гэтая забава мае ў сабе нешта традыцыйнае і якобы ўрачыстае, бо пачынаюць яе сам ксёндз з арганістым: папоруцца, пажартуюць, — а пасьля ўжо пачне грамада дзяцей...

*

Тут-жа ў Аўстраліі няма ні беларускіх, ні нямецкіх абычаяў: Вербніца і Вялікдзень, як звычайны дзень.

Праз увесь год нядзелямі забаронены ўсялякія ігрышчы, гульні, танцы і кіно. Нават і спартовыя спаборніцтвы можна пачынаць толькі пасьля першай гадз. па паўдні. І больш таго: у нядзелю нідзе нічога ня купіш, нават хлеба! Каб хто хацеў прадаць — вялікая кара.

Першы Вялікдзень у Аўстраліі нам прышлося адсьвяткаваць у Альбаны. Той год супаў разам па Юльянскім і Грыгарыянскім каляндару, а жонка кажа: «Сёлета наш Вялікдзень разам з „польскім"!».

Вялікая Субота тут праходзіць звычайна як і звычайная: танцы, кіно. Вячэралі мы, як трэба, з постам. А мне пашанцавала: злавіў рыбы цэлы мяшок — ледзь прывалок дамоў! Дзеці пачалі зьбірацца ў кіно, як звычайна мы хадзілі к вечару кожную суботу. Але матка загаласіла: — А ну, па ложках! Ведаеце, які сяньня вечар? —

Дзеці пачалі мырзьдзіць насамі. Аж, як убачылі, што я пачаў адшпіліваць дзяжку, дык хуценька шмыгнулі і апынуліся пад пярынамі!

А мы з жонкай дзеля таго, што царквы няма, а да касьцёла неяк нязрукі, заселі пад абразамі і да першае ўначы сьпявалі з малітаўніка «Голас Душы», які нам надаслаў а. Татарыновіч, бо-то мы калісьці належылі да царкоўнага хору ў Далятычах.

Вялікдзень у Аўстраліі сьвяткуецца 4 дні — ад Вялікай Пятніцы да аўторка.

Ну, мы, ведама, добра заспалі — аж толькі чую — нейкі стукат-грукат. Я-ж стукаю жонку пад бок, кажу: — Ты чуеш? Здаецца, сягоньня Сьвята — Вялікдзень?

Яна кажа: — Чую! А ты думаў, што?

Выйшаў я на панадворак: ціха-ціха, што тут вельмі рэдка бывае. Сонечка сьвеціць ясна, мае пчолкі весяла зьвіняць і цягнуцца шнуркамі — лятаюць праз маю хацінку. А хатка была тады, як нехта пісаў: «... хоць старая, хоць крыва, хатачка мая!» Бо і сапраўды была яна такая, у якой ледзь зьмяшчаліся два ложкі.

Але хто так стукае? — Аж гэта мой сусед: будуе сабе гараж! Падыходжу — кажу: — што робіце? Такое вялікае Сьвята ...

А ён мне: — Так, я ведаю, што сяньня Вялікдзень — «Easter»: таму я маю 4-ы вольныя дні і збудую гараж. Бо пасьля зноў пайду на работу і так няма часу. —

— А ты — каталік?

— О, так, каталік!

Я вельмі зьдзівіўся, бо такога каталіка дасюль не бачыў ...

*

У Аўстраліі кожнага 5-га лістапада здараецца нейкая памятка, як называецца «Бон-Фаер», і служыць — на заработак крамнікам, на выдаткі бацькам, на пацеху і калецтва дзецям. Шыкуюцца да яго цэлы месяц і крамы завалены ўсялякімі выбуховымі прыладамі, як называюць, «крэкет» і ракетамі. А кожная сям'я пасьвячае на гэта дзесяткі даляраў!

Дзеці пры гэтай аказіі адрываюць пальцы, выпальваюць вочы, дастаюць рознага тыпу іншыя траўмы. Аднак, не зважаючы на такія вынікі, з году ў год адбываюцца такія гульні — такое «сьвяткаваньне», што ўкаранілася здаўна і вельмі ўсім падабаецца.

У кожным горадзе ёсьць адумысловы пляц, добра абгароджаны, а за ўваход трэба заплаціць. Горад Альбаны мае такі пляц адлеглы за 6 міль. Туды спэцыяльныя аўтабусы давозяць да мейсца шыбка і выгодна, але за праезд бярэцца таксама добрая плата.

Пасярод таго пляцу ладзіцца вялізарнае вогнішча — дровы складаюцца як вялічэзны стог сена: на стог ставяць вялікае чучала чалавека, прыгожа адзетае; але, што тое пудзіла азначае, наагул ніхто ня ведае.

А гадз. 7-ай вечара прыяжджае мэр гораду: перш выступае з прамовай, а пасьля ўрачыста падпальвае дровы і выпускае першую ракету. Ад таго і пачынаецца ігрышча, якое трывае да познай ночы.

Народу грамадзіцца маса, а зарабляюць пры гэтым хто і як можа!

Найбольш тыя, што арандуюць ад гораду той пляц, які бяруць зараня з публічных таргоў. Тут прадаюцца ракеты, тут усялякія гульні, ігры ў шчасьлівыя білеты, гульні выпадку, ці фантазіі, — адным словам, усялякія спосабы весяла і цікава даць сябе абдурыць і абцыганіць.

Дый тут неадлучны «гот-дог» (мы называлі «гарачы сабачка») і «барбэкі» — гэта кусок печанай на ражне пры вогнішчы тлустай бараніны.

*

Аднойчы дзеці так прысталі, што я аніяк ня мог ад іх адчапіцца!

— Паедзем на «Бон-Фаер»!

Ну, і паехалі! .. Накупілі на пару фунтаў розных цацак (на больш я ня мог сабе пазволіць). Аплаціўшы ў брамцы па шылінгу за кожны нос, пасьпяшылі да вогнішча; а там агонь палае як у гуце і ўжо падпякае пяты таму «джэнтльмэну» — пудзілу, што стаіць наверсе ў цыліндры пад чырвонай мушкай, у чорным фраку і з цыгарай у зубах.

Ракеты з праразьлівым шыпеньнем узьвіваюцца ўверх, пасьля трэскаюць і разнакаляровымі гірляндамі асыпаюцца ўніз. Па бакох чуваць выбухі «крэкатаў», а ўсюды крыкі, шум-гоман, сьмех і гармідар, як на гарачым кірмашу. Далучаецца і плач дзяцей, гук сырэны з амбулаторнай машыны, бо ўжо кагосьці паперлі ў шпіталь, бо тут так лёгка малому стаць інвалідам на ўсё жыцьцё!

— «Гот-догс!» — «Барбэк»! — заклікаюць да пачастунку. А далей да шчасьлівых выігрышаў, дзе магчыма за шылінга здабыць паў-Аўстраліі ...

Тут дачка тузае мяне за рукаў: «Тата, дай шылінга! Вунь якая бліскучая лялька ... Дзядзька кажа, як ня выіграю, дык верне шылінга».

— Ну, маеш шылінга! Убачыш ты шылінга ці ляльку, як свае вуха ... »

А тут-жа знаёмага дачушка просіць бацьку: — Я хачу «гара-а-а-чую саба-а-чку!»

А што-ж гэта за цацка? — Гэта сьпечаная пшанічная булачка, разьмерам і формай як сярэдні агурок: тады разразаецца ўздоўж і ў нутро ўкладаецца чырвоненькая каўбаска, аблітая тэматавым соўсам, — і вось «сабачка» гатовы! А тымчасам каўбаскі варацца ў катле, дробны народ націскае ўсё больш — ледзь пасьпяваюць дагадзіць кажнаму кліенту, які падыходзіць у чарзе!

А я кажу таварышу: — Знаеш, Мікола? Мне прыпамінаецца чарга ў Саюзе, як мы калісьці дабіваліся хлеба ... —

Але вось яшчэ «барбэкі»! — Тут вялізны ліст тоўстае бляхі, падпёртай цэглямі, падысподам агонь — напалена да чырвані і кожны кандыдат сам сабе пячэ на ражне кусок бараніны (а можа — авечыны?), што называецца «чопс». Дый тут-жа пры агні і есца, запіваючы півам. А падсаліць і паперчыць можна бясплатна! — Смурод забівае духі; грызуць амаль паўсырое, мяса рвуць зубамі, а пасьля выкалупваць між зубоў — злуюцца і сьмяюцца ...

*

У Аўстраліі я ўжо нямала чаго выпрабаваў — і кролікаў, і папугаяў і кенгуру і яшчаркаў... А ёсьць тут яшчаркі ў мэтр даўжынёю, таўшчынёю як кот, называюць іх «горс»-конь, бо яны і скачуць у два мэтры.

А птушка Эму, з пароды страўсаў: лятаць ня можа, а бегае так, што і канём не здагоніш! Вагой да 50 кіляграмаў, ногі — на мэтр, як у дзікой казы і таксама на нагах нейкія капыткі, пакрыта ні-то пер'ем, ні-то шэрсьцьцю, затое і называюць эму «казуарам». — Тымчасам яна яшчэ не мае аховы ўраду, бо вельмі шкодная і на рунь і на калосьсе — і топча і ламае! На ніякую агарожу не зважае. — Я сам бачыў, як убрыкнула па драціне, дык тая трэснула, як струна ў скрыпцы! —

Яйкі нясуць, як добры гарбузік: з аднаго яйка — сьнеданьне для 6-ці чалавек! Свае яйкі кладзе ў пясок і пасьля не дбае аб іх. У кніжках пішацца, што выседжвае іх самец. Як вылупяцца, дык самка вяртаецца да гнязда і забірае дзятву дый водзіць да поўнага ўзросту. Мяса маладых даволі смачнае.

І яшчэ бяруся напісаць аб к е н г у р у, хоць пры гэтым адыйду ад пачатай тэмы, але і гэты зьвер для эўрапэйцау вельмі цікавы.

Чаму так называецца, што яно азначае і чыё гэта слова?

Гэты зьвер — з пароды мяшочнікаў, траваедны, але не жвачны. Жывуць вылучна ў Аўстраліі, іх тут тры сарты: 1) малы — ня больш за сабаку, 2) сярэдні — як добрая авечка і 3) як пярэзімак-цялё.

Першы і трэйці — папялістыя, а другі — шакаладны. Меншыя маюць на канцы хваста мяцёлку і называюцца «браш-кенгуру». Іх зусім асталося мала і забаронена забіваць пад вялікай караю. Скура малавартасная, дык страляюць іх толькі дзеля мяса, якое таксама няважнае — толькі для катоў і сабак. Але нярэдка стральцы палююць на кенгуру толькі дзеля пустой забаўкі ці ў абароне сваіх пасеваў. — І мяса бярэцца з іх толькі з задніх частак, бо зьверху — самыя скура й косьці.

Кенгуру крыху напамінае казу, нават і бэкае як каза, або чмыхае носам. Хоць з натуры гэта звярок не драпежны, аднак у небасьпецы жыцьця ўмее так бараніцца, што можа чалавека сьмяротна скалечыць: становіцца сьпінай да дрэва, а пярэднімі лапкамі раптоўна стараецца разарваць ворагу жывот. На гэтых ножках тры вострыя пазуры.

Аднойчы на паляваньні мы падстрэлілі сярэдняга кенгуру, а наш сабака пабег ранenага даганяць: пакуль мы дабеглі да стаянкі, дык было ўжо позна і пачулі лямант сабакі — бачым — сабака паўзе ў крыві, а кенгуру стаіць, трымаючы сабачыя кішкі ў сваіх лапах...

Уся фігура кенгуру вельмі дзівосная: увесь цяжар цела асаджаны на задніх — таўстых, вялізных — лапах і на такім самым хвасьце, а ўверх цела звужываецца і мае пярэднія лапкі малыя і галоўку авечую, бяз рогаў, з заячымі вушамі.

Сядзіць на хвасьце і зорка водзіць наўкол вачамі. А пасецца так: заднія ногі — пад сябе, жыватом кладзецца на іх і апіраецца ў зямлю. Тады пярэднімі лапкамі рвець траву, або адгрызае зубамі і бярэ ў лапкі, як нашая вавёрка, і так есьць: дзіўна і сьмешна!

Але што найдзіўнейшае — гэта на жываце торба — у самкі. Малое родзіцца толькі адно і перад часам — неданошанае, нават належна несфармаванае: матка яго ўцягвае ў сваю торбу і кладзе ў рот сваю соску. Гэтая соска ў роце так разбухае, што малое ня можа адарвацца. І ў торбе ўнізе ёсьць адпаведная дзюрка, каб выцякалі натуральныя адпады. Так малое данашвае матка і яно фармуецца дый пакрысе мацнее. А пасьля ўжо становіцца свабодным і можа выскакваць з торбы, аднак у небясьпецы зара хаваецца назад і выстаўляе галоўку, каб абсэрваваць сьвет.

Малыя даюцца лёгка прыручыць і ходзяць за людзмі як сабакі. Зрэшты, яны ня ходзяць, а скачуць на задніх нагах, падпіраючыся магутным хвастом і даюць скачок да 15-ці мэтраў у даўжыню!

Гінула іх да мільёну у год ад нахабнага паляваньня — аж урад узяў пад апеку, асабліва рэдкія гатункі.

Нарэшце трэба сказаць аб самой назве «кенгуру», што яно значыць?

Калі капітан Кук прыбыў першы раз у Аўстралію з сваімі матросамі 1768 г. і калі яны першы раз убачылі дзіўнага зьвярка, дык сталі пытацце мяйсцовых нэграў, як гэтая «фацэція» называецца? Але аніяк з нэграмі не маглі згаварыцца! Тады адзін матрос стаў на карачкі і пачаў скакаць... Але нэгры пачалі страшэнна сьмяяцца і крычэць: «кенгуру-кенгуру!», што значыла па іхняму «звар'яцеў!» Дык вось з гэтага выпадку эўрапэйцы падхапілі гэта слова і назвалі так гэтага скакуна.

Але вернемся да гульняў у «Бон-Фаер»! — Пасьля сьнеданьня кракадзіл разяўляе зяпу-пашчу, а суседнія птушачкі яму чысьцяць зубы. Таксама назаўтра і я ляжаў — (пасьля гэтае вясёлае ночы) — разявіў сваю пашчу, а мая свойская птушачка-жонка чысьціла мне зубы пінцэтам.

Нарэшце астаецца пытаньне: «У знак чаго ладзяць «Бон-Фаер»?

Найперш пабачыў я знаёмую настаўніцу і пытаюся, на якую памятку адбываецца гэтае свята?

Яна шчыра адказала: — донʼт ноу! (— Ня ведаю!).

І яшчэ спытаўся 4-ох паліцэйскіх і аднаго сэржанта: яны адказалі тое-самое.

Аж якраз дачка вярнулася із школы і кажа, што настаўніца пыталася, якой я нацыянальнасьці і адкуль мы паходзім і скуль прыехалі?

— Я кажа — адказала ёй: — Я ёсьць беларуска, паходжу з Беларусі, а прыехалі мы з Нямеччыны.

Тады настаўніца спытала: — А хто першы адкрыў Беларусь? —

— А ты што ёй адказала? —

— Я нічога ня ведала, што ёй адказаць!

— А шкода! А трэба было сказаць, што Беларусь адкрыў капітан Кук...

Так людзі і сьвяткуюць і твораць вялікія гармідары, ня ведаючы, што і да чаго!?

Аднак я не дараваў усяе справы і шукаў далей выяўленьня аб «Бон-Фаер». І вось знайшоў у аднэй старой кніжцы:

Традыцыя «Бон-Фаер» паходзіць з Англіі і зьвязана з тым, што 5-га лістапада 1605 г. нейкі Гай Фокс хацеў узарваць ангельскі парлямант, але яго выкрылі і спалілі на кастры. Таму цяпер кожны год прыбіраюць чучала і ўрачыста паляць на вогнішчы. А ўсе іншыя дадаткі і гульні — «Гот Догс», «Барбэкі»... — прычыняюцца да шумнай вясёласьці дзяцей, моладзі і ўсяго прастанародзьдзя, а і даюць добры заработак усялякім спрытнюгам.

## З царкоўнага жыцьця

### «ПЁТР ЁСЬЦЬ ТУТ»

Павал VI абʼявіў перад 20.000 пілігрымамі у базыліцы сьв. Пятра ў Ватыкане, што закончана правяраньне вучонымі астанкаў (рэліквіяў) апостала Пятра.

Папа казаў: «З новых досьледаў, якія вяліся вельмі цярпліва і дакладна і якія ўжо закончаны, выявілася, што мы абапіраліся на думцы людзей кампэтэнтных і растаропных — дык вось мы пераканаyы пэўна, што останкі св. Пятра спраўджаны спосабам, аб якім мы можам сказаць, **пазытыўным**».

Да гэтага часу вывады археалёгаў, якія працавалі ў падзямельлі сьв. Пятра, ня былі афіцыяльна абʼяўлены праз Ватыкан, бо дасюль бракавала навуковых доказаў. А цяпер высьняецца наступнае: падчас раскопак пад галоўным аўтаром у падзямельлі базылікі было знайдзена мейсца гробу сьв. Пятра: а яго астанкі — чэрап і косьці — былі ў асобнай драўлянай скрыні. Ня было аднак усталена, што гэта якраз уласна і ёсьць косьці сьв. апостала. І вось адна з вучоных археалёгаў, Маргарэта Гвардуччы, стала аглядаць, дасьледаваць і расшыфроўваць надпісы на сьценах падзямельля, так званыя «граффіты» (гэта пісаныя вострымі прыладамі імёны пахаваных там людзей) і знайшла ў гэтым мейсцы ледзь значны надпіс: «**Пётр ёсьць тут**». Надпіс быў зроблены ў мове грэцкай, якая тады ўжывалася ў хрысьціянскім набажэнстве ў Рыме. Тады Гвардуччы запатрабавала аглядзець і дасьледзіць уласна тыя косьці ў скрыні і вучоныя выказалі такі погляд: косьці належаць да пахаванага мужчыны ў веку 60 да 70 галоў. Рост яго быў 1 мэтр 63 цэнты. І ўсё паказвае, што гэта быў чалавек моцнай постаці.

А ўнутры скрыні былі знайдзены манэты розных эпохаў і былі там знайдзены яшчэ нястлеўшыя кавалкі матэрыі-пурпуры ператыканай залатымі ніткамі, што паказвае на вялікую пашану да пахаванай асобы.

Дык вось Папа гаварыў народу: «Так, гэта ёсьць астанкі, годныя пашаны, Сымона, сына Іоны, галілейскага рыбалова, якога імя Хрыстос зьмяніў на **Пятра**, каб учыніць яго асновай сваей Царквы, якому Хрыстос даверыў **ключы** да свайго валадарства з абавязкам **пасьвіць** сваё стада — аж пакуль Ён вернецца ўканцы сьвету на зямлю (судзіць жывых і памёршых). Так, сьмяротныя астанкі Пятра знайдзены».

«Дарагія сыны і дочкі! будзем цешыцца і дзякаваць Богу і маліцца да мучаніка-апостала — і біскупа Рыму і Каталіцкае Царквы; а з ім разам прыклікаць Паўла, місіянэра-Вучыцеля народаў і галоўнага героя хрысціянства, каб яны абодвы былі нашымі вучыцелямі і заступнікамі».

*

ВАТЫКАН: Павал VI абʼявіў, што на 20. X. 1968 назначаецца Місіянерская Нядзеля: патрабуюцца ахвяры людзкіх прызваньняу да Божае службы».

«Гавару да вас — казаў Папа — аб грашовых ахвярах. І гаманіўбы з баязьняй і нясьмеласьцяй, каб не ляжаў на нас прымус абавязку, каб Ватыканскі Сабор не напамінаў нам, каб мы ня стыдаліся пакорна выцягнуць руку і выявіць сябе як жабрака дзеля Хрыста і дзеля людзкога збаўленьня».

Папа выясніў, што місіянерскія акругі вялізар-

ныя. Патрабуюць шпіталяў, школаў, капліцаў, пасёлкаў для пракажаных, сэмінарыяў, асяродкаў навучаньня і адпачынку, бясконцых падарожаў і інш.

*

## ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС У КАЛЮМБІІ

23-га жніўня Павал VI-ы прыбыў на самалёце у гор. БОГОТУ на Кангрэс, а вярнуўся у Рым 25. VIII. Гэта першы раз у гісторыі, што Рымскі Папа наведаў Паўдзённую Амэрыку. Віталі яго каталікі з усіх рэспублікаў, так назыв. «Лацінскай Амэрыкі», у якіх афіцыяльная мова ёсьць гішпанская (апрача Бразылі, дзе мова партугальская), а фундамантам гэтых моваў ёсьць старая лаціна.

Энтузіязму гэтых народаў (пераважна мэтысаў — мяшанцаў з індыйцамі, а часткова і з нэграмі і з інш.) — нельга апісаць! Прыбыўшы на пляц Кангрэсу, Папа ўбачыў цэлае хвалюючае мора хустачак, якімі махалі на прывітаньне ўзрадаваныя людзі, пераважна прыгнечаныя цяжкім эканамічным палажэньнем.

Павал VI маліўся і прамаўляў пераважна ў мове гішпанскай, а ягоныя словы, узмоцненыя галасьнікамі даходзілі да вушэй і сэрцаў кожнага чалавека: і слухалі добрыя людзі і спадзяваліся палёгкі у сваіх труднасьцях...

А палажэньне насельніцтва вось якое: у 1900 годзе было народу у Паўдз. Амэрыцы — 63 мільёны; у 1950 — 163; у 1968 — 268.

А ў 2000 годзе ў Паўдз. Амэрыцы праўдападобна будзе ўжо — 700 мільёнаў.

Прычына такога раптоўнага скоку тая, што прыбыло шмат эмігрантаў і наагул разрост мяйсцовага насельніцтва і спрыяючыя варункі атмасфэрычныя. Ўсё гэта і дзіўнае і жудаснае. Паўстае пытаньне: хто пракорміць увесь гэты размножаны народ? Тымбольш і тымгорш, што сацыяльныя варункі гэтага кантынэнту — фатальныя! Багацьце зямлі і капіталы зграмаджаны ў малым працэнце капіталістаў, а просты народ — галадуе.

Павал VI-ты станоўча выступіў супраць такога непарадку і *асудзіў* яго але *не пазваляе зьмяняць ладу сілай* і рэвалюцыяй: угаварвае дабівацца парадку *рэформамі.*

Над гэтым пытаньнем радзілі сабраныя біскупы пасьля закончанага Кангрэсу: яны згаджаюцца з Паўлам VI-ым, але ня ведаюць, як выйсьці з такой вялізарнай немарасьці?

Сапсаваць здароўе лёгка, але аздаровіць чалавека цяжка: так і цэлыя краіны. Ня ўсякія хваробы лечацца рыцынай, а рэвалюцыя — гэта разлад арганізму і патрабуе умелага і мудрага лячэньня — вялікай цярплівасьці і ахвярнасьці грамадзтва.

*

АЗІЯ: УЦЕКАЧЫ. Неспакойнае жыцьце і войны ў Азіі выклікаюць шэрагі ўцекачоў — ня толькі з Ветнаму, але і з Карэі і з іншых краёў. Здавалася-б, што ўцекачы будуць найбольш з Паэдзённага Вьетнаму, дзе вядзецца вайна. Аднак уцякаюць больш з Паўночнага Вьетнаму і з Паўночнае Карэі; а прычына пераважна рэлігійнага характару, бо ўцякаюць каталікі ад прасьледу бязбожнікаў. Таксама і з Кітаю, дзе прасьлед рэлігіі асабліва назойлівы. І гоніць тых людзей *с т р а х* і *голад:* людзі ахоўваюць сваё жыцьцё і волю, бо найбольш хрысьціяне ня хочуць прадаваць сваёй душы дзеля хлеба і выгоды.

*

АЗІЯ І ПАЎДЗЁННАЯ АМЭРЫКА: Вось кантынэнты, дзе найбольш пагражае голад, бо народ множыцца шыбчэй, чым здабываюцца прадукты. — У Індыі, напрыклад, урад прыкладае вялікую стараннасьць, каб падняць ураджайнасьць зямлі і сапраўды поступ аказваецца значны, аднак пасьпець у гэтакім няроўным змаганьні проста немагчыма! Калі прыгатуюць прадуктаў на новы мільён людзей, дык якраз прыбудзе народу новых *п я ц ь* мільёнаў!.. лішніх галодных!!! — Дык вось вучоныя ўсяго сьвету, а таксама духавенства ўсіх Цэркваў і ўрады ў дзяржавах думаюць і мяркуюць, як парадзіць у такой бядзе?! Бо ў Індыі кажны месяц родзіцца мільён дзяцей.

І прыходзіць сьвет да высн аву, што трэба сфармаваць адзіную дзяржаву для ўсяго чалавецтва... Толькі гэтак будзе магчыма стварыць парадак у чалавецтве, каб пакасаваць канкурэнцыю, вайны і голад.

Бо ўжо дайшло да таго, што тры чвэрці на сьвеце людзей недаядае або і зусім галодныя. І прадказваюць вучоныя, што ў 1975 годзе будзе толькі 10% насычаных! а 90% галодных...

## АНТЫСАВЕСКАЯ МАНІФЭСТАЦІЯ Ў ЛЁНДАНЕ

Хваля абурэньня, выкліканая бандыцкім нападам Савецкага Саюзу на Чэха-Славаччыну, ахапіла ўвесь вольны сьвет і адбілася таксама моцным рэхам у Англіі. Вонкавым выяўленьнем гэтага абурэньня быў цэлы рад антысавецкіх




маніфэстацыяў. Адна такая маніфэстацыя была зладжаная ў суботу 24-га жніўня ў Лёндане прадстаўнікамі народаў паняволеных чырвонай Масквой. Пачалася яна мітынгам у Гайд Парк, пасьля якога калёна дэманстрантаў (больш тысячы) з нацыянальнымі сьцягамі і антысавецкімі плякатамі накіравалася да савецкай амбасады. Адтуль дэманстранты пайшлі па вуліцах Лёндану ў квартал Эрльс Корт, дзе ў тым часе адбывалася савецкая прамысловая выстаўка. Шматлікія студэнцкія пікеты заклікалі наведвальнікаў байкатаваць выстаўку, якая сапраўды была ў той дзень пустою.

Сярод дэманстрантаў была вялікая група беларусаў з нацыянальным сцягам і плякатамі з дамаганьнямі свабоды для Беларусі і выражэньнямі падтрымкі для народаў Чэха-Славаччыны.

## ЛЕТНІЯ КАНІКУЛЫ ВУЧНЯЎ ШКОЛЫ СВ. КІРЫЛА

Дзякуючы шчодрасьці сп. Обэрона Гэрбэрта, старшыні Ангельска-беларускага таварыства і вялікага прыяцеля беларусаў, палова вучняў Школы св. Кірыла правялі тры тыдні ў жніўні гэтага году ў ягонай маемасьці ў Сомэрсэт ў заходняй Англіі. Хлопцы вярнуліся захопленыя сваімі канікуламі, якія праляцелі хутка пры купаньні, рыбнай лоўлі, працы ў лесе, ужо не гаворачы аб паездках на мора і ўдзеле ў паляваньні. Адзін з хлапцаў нават папробаваў бегчы разам з хартамі за аленем!

Спадару Гэрбэрту належыцца шчырая падзяка за тое, што даў магчымасьць прыемнага і здаровага адпачынку хлопцам, якія ў іншым выпадку не мелі-б магчымасьці выехаць куды-небудзь за горад на канікулы.

## ПОСЬПЕХІ ВУЧНЯЎ ШКОЛЫ СВ. КІРЫЛА

У чэрвені гэтага году два вучні школы св. Кірыла ў Лёндане — Эдуард Ўолш і Юры Хахолка — здалі на Лёнданскім унівэрсытэце матуральныя іспыты (Джы-Сі-І) з беларускай мовы. Вынікі гэтыя ёсьць асабліва радасныя таму, што адзін з кандыдатаў, Эдуард Ўолш, зьяўляецца першым ангельскім вучнем у беларускай школе і першым кандыдатам небеларускага паходжаньня, які зрабіў матуру з беларускай мовы.

Кожны год, пачынаючы ад 1966, школа св. Кірыле рыхтуе новых кандыдатаў да матуры з беларускай мовы. Да гэтага часу ўсе ейныя кандыдаты здалі іспыты пасьпяхова.

Трэцім кандыдатам, які здаў матуру з беларускай мовы ў гэтым годзе, зьяўляецца а. Рабэрт Тамушанскі, які працуе настаўнікам у школе св. Кірыла. Дзяды а. Тамушанскага выехалі з Беларусі перад Першай Сусьветнай Вайной, але ён сам і ягоныя бацькі радзіліся ўжо ў Амэрыцы. Тым ня меньш а. Тамушанскі ня толькі не забыўся беларускай мовы, але не перастаў чуцца беларусам. Прыехаўшы ў Англію, ён не траціў часу, каб здабыць навуковыя кваліфікацыі ў галіне беларускай мовы. Яму, а таксама вучням Эдуарду і Юрку, належацца найлепшыя павіншаваньні і пажаданьні далейшых посьпехаў.

## 50 ГОД — ЮБІЛЕЙ ШЛЮБУ, 1918—1968

Дня 3. X. 1918 адбыўся шлюб Сп. ЯНА і Сп-ні АЛЯКСАНДРЫ ЧАРНЭЦКІХ у касьцеле Сьв. Апост. Пятра і Паўла ў Маскве на Мілюцінскім перав.

З нагоды іх Юбілею рэдакцыя «Божым Шляхам» жадае памыснасьці і доўгіх шчасьлівых гадоў і найхутчэйшага павароту ў Вольную Беларусь, каб толькі Бог даў яна такой сталася!

РЭДАКЦЫЯ

## *З лістоў у рэдакцыю*

# Пішуць да нас

КАЛІФОРНІЯ — ЛЁС АНДЖЭЛЕС: У панядзелак вечарам 22-га ліпеня беларусы у Лёс Анджэлес мелі нязвычайную прыемнасьць спаткаць на інтэрнацыянальным лётнішчы дарагога Гасьця беларускага каталіцкага Біскупа Часлава Сіповіча. Уручаны яму букет кветак добра сымбалізаваў сардэчнае з ім спатканьне. Сярод спатыкаючых былі старыя знаёмыя і прыяцелі Біскупа, якія спэцыяльна прыехалі прывітаць яго і наагул прыбылі нават здалёку суродзічы, каб пазнаёміцца. І адразу зрадзіўся праект — наладзіць спатканьне групобае з усімі беларусамі.

Так у сераду вечарам 24-га ліпеня адбылося нашае сабраньне ў украінскай каталіцкай царкве: Дастойны Біскуп Ч. Сіповіч адслужыў урачыстую Службу ў асысьце а. Я. Чайкіўскага, а прытым сьпяваў укр. дырыгент сп. Божык. Перад службай Біскуп пасьвяціў нацыянальны сьцяг Беларускай Грамады ў Лёс Анджэлес.

Пасьля на прыняцьці Біскуп Часлаў зрабіў цікавы інфармацыйны даклад аб жыцьці і дзейнасьці беларусаў на чужыне, асабліва ў Эўропе — аб Англіі і Нямеччыне, а такжа аб Рыме. Як прамова ў царкве, таксама і даклад зрабілі на прысутных вельмі глыбокае ўражаньне.

Заўважалася пры гэтым шчырае захапленьне ня толькі зьместам прамовы, але самой Асобай нашага роднага Біскупа: ён выдатны прамоўца з моцным і ясным голасам, так што слухалася з вялікай прыемнасьцяй і лёгкасьцяй.

Пасьля афіцыяльнай часткі, у якой Высокага Гасьця вітаў інжынер Бруцкі ад імяні мясцовага аддзелу БАЗА і дзякаваў яму за прыезд, пачалася частка прыватнага вітаньня і прыяцельскіх гутарак. Асаблівасьцяй прыняцьця быў вялікі торт з узорам беларускага сьцягу. Прыемна было бачыць нашых мілых жанчын, як яны ахвотна і з любоўю вельмі прыгожа зарганізавалі гэтае прыцяцьце. Асабліва-ж трэба падзякаваць Дарагім Спадарыням за іхнюю стараннасьць і працу — Валі Гром, Валі Стус і Каці Шалест.

У чацьвер вечарам на тым самым лётнішчы беларусы разьвіталіся з Біскупам Чаславам і пажадалі яму шчасьлівай далейшай падарожы.

У працягу гэтых трох дзён нямала сем'яў мелі нагоду прыватна прыймаць у сябе дарагога Гасьця або наведаць яго ў другіх людзей: наагул усе асталіся дужа здаволеныя такой сустрэчай і гутаркай з Біскупам. І так узмоцнілася ўзаемнае зразуменьне і паглыбілася нашае нацыянальнае аб'еднаньне: гэтаму не памяшалі розьніцы рэлігійныя дый палітычныя, бо мы разумеем, што становім адзін беларускі народ.

Беларусам было надта прыемна бачыць і пазнаць у Асобе Біскупа Сіповіча свайго разумнага і глыбока інтэлігентнага Пастыра.

**Н. Н.**

# „БЕЛАРУСКА“

*(Прывітаньне Біскупа)*

Што я — зроду беларуска,
У калысцы знала:
А завуся я Карнэлька —
Мама так назвала.

Беларусь я пакахала
Сэрцам і душою:
Сьцяг свой родны я пазнала
З дзедаўскай зямлёю.

Міла мне, прыемна слухаць
Пра той край цудоўны:
Сэрца б'ецца, думкі марацьь,
Каб стаўся знаёмы!

Я ў Амэрыцы радзілась —
Буду ўспамінаці:
Беларускай ахрысьцілась —
Буду добра знаці.

Тваей воляй, Божа мілы,
Гэта можа стацца:
Дай мне моцы, дай мне сілы
Беларускай звацца!

**П. Ермін.**

## СІДНЭЙ. — ДАСТОЙНЫ ГОСЬЦЬ У АЎСТРАЛІІ

Дня 4-га жніўня — тэлефон да мяне: — Ці магу гаварыць з доктарам Малецкім? —

— А хто звоніць?

Біскуп Часлаў! Я толькі што прыбыў з Новай Зэляндыі, каб Вас тут наведаць...

Прызнаюся, што мне крыху дух заняло! Радасна запрашаю на неагранічаны час да сябе: то-ж мы суседзі, гадунцы адной гімназіі ў Друі і разышліся па сьвеце 35 гадоў таму. І вось цераз некалькі гадзінаў прыбыў Дастойны Госьць Біскуп Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў. Да парогу майго дому яму асыставаў а. Георгі (сьвятар) і пару сьвецкіх чалавек.

Пасьля пару-гадзіннай гутаркі-ўспамінаў, калі нашая мінуўшчына чароўнай стужкай прабягала праз Друю, Вільню, Менск, Рым і Нямеччыну, мы селі да вячэры. Успамінам ня было канца! Уладыка быў змучаны і трэ было пайсьці на спачынак.

Назаўтра Уладыка Часлаў наведваў Сыднэй: падзіўляў яго магутныя будынкі, опэру, батанічны гарод і тутэйшых спакойных людзей.

Вечарам правёў даўжэйшую гутарку з прадстаўнікамі беларускага грамадства. Усе дзівіліся з энэргіі, адвагі і знаёмасьці розных тэмаў, а таксама і дасягненьняў Уладыкі на грамадзкім і навуковым полі.

На трэці дзень сп. К. Сіткоўскі абвозіў Біскупа Часлава па ваколіцах Сыднэю і наведалі украінскага Уладыку. А 4-га дня Уладыка Часлаў адпраўляў Багаслужбу ў украінскай грэка-каталіцкай царкве, а пасьля быў на грамадзкім абедзе ў О. і А. Качаноў, дзе гутаркі на рэлігійныя і грамадзкія тэмы працягнуліся аж да поўначы!...

На 5-ты дзень наш Госьць быў запрошаны на абед да папскага нунцыя Біскупа Энрыцыё.

Наступнага дня Уладыка зрабіў вечарам даклад для шматлікіх беларусаў у гатэлі Файрфільд на тэму: «Беларусы ў сьвеце». Пры стале, які быў накрыты беларускім сьцягам, наш Дастойны Госьць гаварыў аб значэньні Экумэнічнага Сабору, аб беларусах у сьвеце і на Бацькаўшчыне. Калі, гаворачы аб Беларусі, успомніў: «Мы маем нафту і прадукуем яе ў тысячах тоннаў і маем соль; а ў нашым музэі ў Лёндане мы можам паказаць кавалак **беларускай солі...»** Тут прысутныя ўсталі і абсыпалі Лектара воплескамі.

Унівэрсальны і патрыятычны даклад Уладыкі аб'яднаў прысутных у дружную сям'ю, што змагаецца за свае палітычна-грамадзкія правы ў сьвеце.

У часе пачастунку Уладыка правёў шматлікія гутаркі, прыватныя і грамадзкія, а на заканчэньне жадаў сыднэйскім беларусам плённай працы, за што прысутныя гучна дзякавалі і адсьпявалі: «Ці сьвет, ці сьвітае...» і «Многія Леты».

10 жніўня раніцай прадстаўнікі белар. грамадства і ўспомнены а. Георгі правялі Уладыку на аэрадром.

«Многія Леты! Многія Леты!

**Др. Я. Малецкі**

**МЭЛЬБУРН:** Учора (22. VIII) разьвіталіся мы з Уладыкам Ч. Сіповічам: паляцеў у Адэляйду, стуль у Пэрт, а пасьля ў Індыю, у Ізраіль, у Грэцыю і нарэшце ў Італію-Рым. Назьбірае прывітаньняў і матар'ялу для рэдакцыі з усяго сьвету.

У Мэльбурне быў 12 дзён і амаль кожны дзень зьбіраліся людзі, а было гэтулькі розных пытаньняў і сумніваў і жаляў!... Ясная справа, што ня ўсё ўдалося высьвятліць. Але тыя, што былі на сабраньнях, даведаліся нямала, у справах рэлігійных асабліва, і сяньня яны здаволеныя з візыты Уладыкі.

Уладыка прыляцеў да нас у суботу раніцай 10-га жніўня: спаткалі яго на лётнішчы беларусы грамадою. Затрымаўся ў свайго сьвятара марыяніна а. Юрага, але 9 вечароў праводзіў сярод беларусаў, якія яго цёпла прыймалі. Зьбіралася паважная грамада і пры сталох можна было нагаварыцца і насьпявацца. —

Афіцыяльнае спатканьне і разьвітаньне ладзілі Сп-тва Калодкі. Другога дня — ў нядзелю — Уладыка служыў сьв. Літургію ў украінскай царкве і сказаў казаньне па беларуску. А ў наступную нядзелю прачытаў даклад для запрошаных беларусаў на тэму «Беларусы ў сьвеце» і пасьля доўга адказваў на розныя пытаньні.

У іншыя дні Уладыка пазнаваў Мэльбурн і ваколіцы, візытаваў і гасьцяваў у тутэйшых беларусаў. Я думаю, што і Госьць і тыя, што прыймалі, асталіся здаволеныя: Уладыка патрапіў зацікавіць усіх і стварыць прыемную атмасфэру, якая збліжала ўсіх і заахвочвала на будучыню да працы дзеля дабра беларускай справы.

Былі мы з ім у музэум, у батанічных агародах і ў іншых цікавых мейсцах Мэльбурну. Шкада толькі, што Уладыка прыехаў крыху зарана, пад канец нашае зімы і на самы пачатак нашага прадвесьня, калі толькі што пачалі цьвісьці дрэвы. За тыдзень-два пачынаецца поўная вясна. Затое трапіць на лепшую пару ў Адэляйду і Пэрт.

Але наш настрой ня ёсьць прыемны: чулі мы па радыё перадачы з Прагі, дзе абываюцца так важныя падзеі, дзе Саветы душаць па гітлероўску адраджэньне-«вясну» Чэхаславакаў. Адно пацяшае, што дасюлешнія прыхільнікі Саветаў выказаліся супраць іх. **М. Нікан.**

*

## ПАПРАЎКА

Успаміны К. Чабатара чытаюцца з прыемнасьцю. Піша цікава і вобразна. І так, як ён піша, было. Толькі трэба адцеміць, што пагляд на Аўстралію дадзены «праз ваконца К. Чабатара». Але пагляд рэальны і скажу — мастацкі.

Пры нагодзе ягонага 2-га артыкулу — сьвяткаваньне Юбілейных Угодкаў у Пэрт — хацелася-б дадаць, што напісана неправідлова, інфармуючы, што Белар. Дом у Пэрт пабудаваны стараньнем 20 асоб. Складаліся на яго і іншыя, а Уладыка Сяргей зьбіраў грошы па цэлым сьвеце. Пераказаў я асабіста на гэты дом сабраныя грошы «на хатку для Уладыкі Сяргея», якую меліся Яму будаваць у Сыднэю. А далучыў таксама і сабраныя грошы з Мэльбурну і нятолькі ад беларусаў. — Пішу гэта дзеля

сьцьвёрджаньня праўды, дадаючы, што найбольш да пабудовы Дому-Царквы прылажыліся людзі з Пэрт, (а магчыма і з Альбаны), што ім хваліцца.

Гэтую маленькую папраўку прасіў-бы падаць у «Божым Шляхам». **М. Н.**

*

## БРАЗЫЛІЯ — РЫО-дэ-ЖАНЭЙРО

Паважаны а. Рэдактар!

Вітаю Вас і «Божым Шляхам» з далёкай Бразыліі, зямлі «Сьвятога Крыжа», на якой калыпаюся ўжо 14 гадоў.

Хоць шмат што тут зьмянілася на лепшае, але крыжоў яшчэ асталося нямала. Прычыны: эгаізм багачоў, пераважна высокіх урадоўцаў. — Яны ня хочуць зразумець, што належыць справядліва выплачываць і дзяліцца сваімі лішкамі з працаўнікамі, у якіх недахоп усяго неабходнага — адзежы, лякарстваў, а нават штодзённага хлеба! — На ва- чах усяго сьвету гэтыя людзі ня жывуць, а вэгетуюць на абтоках гораў у пахілых фавэлях — фанзах, склечаных з бляхі; а гэтакія «хаткі на курыных ножках» падчас тропікавых дажджоў, падмытыя гвалтоўнай улевай, распаўзаюцца і разносяцца бурнымі струменямі вады: такая няпэўнасьць існаваньня, нягода жыцьця, штодзённая мука і пагроза ганебнай сьмерці — вось абставіны, якія нам добра ведамы, бо мы ў іх усьцяж прабываем.

І няшчасьце краю — недахоп школак і школаў: хоць навука ідзець на дзьве зьмены, дык і так ня можа агарнуць усіх кандыдатаў. І брак настаўнікаў; а тыя, што працуюць, пераважна не маюць належных кваліфікацыяў.

Студэнты бунтуюцца — дамагаюцца рэформаў — новых унівэрсытэтаў, лепшых прафэсараў, паступовых мэтадаў навучэньня і лепшых парадкаў... І трудна сказаць, хто тут больш вінаваты, бо студэнты прыходзяць з гімназіяў недавучаныя і нездатныя да вышэйшых студыяў.

Бадай найбольшая перашкода, што міністэрства вайны і ўзбраеньня забірае найбольшыя асыгнаваньні, дык на школьніцтва астаюцца крошкі. Праўда, урад абяцае грунтоўныя рэформы, але гэта толькі абяцанкі.

Між студэнтамі і ўрадам пасрэднічае каталіцкае духавенства, якое дамагаецца развагі і справядлівасьці, — дык бунты крыху прыціхлі, але ці на доўга? — Дый вялікі брак духавества: усе мы бачым, што працуе яно ахвярна — так на ніве народнай асьветы, як сярод беднаты і нярэдка ўдаецца прадухіліць абрыдлівыя злачынствы.

У Бразыліі яшчэ пражывае больш як сто тысяч індзейцаў: гэта патомкі вялізных калісьці народаў Паўдзённай Амэрыкі. Белыя ў працягу 4-х стаг. прывялі да загубы бальшасьць чырвоных людзей: нанесьлі ім розных эпідэміяў, зь якімі іхнія непрывычныя арганізмы не змаглі змагацца; таксама алькаголь, распуста і лакомства белых на тутэйшыя землі, а найгорш прымусовая праца і нявольніцтва — вось кветкі «эўрапэйскай культуры»! І трэба сказаць праўду, што толькі місіянэры баранілі чырвонаскурых ад зьдзеку белых наезьднікаў — партугальцаў і гішпанцаў. Партугалія і Гішпанія трымаліся такой лініі, што «ніякай культуры індзейцам ня трэба: няхай трымаюцца свайго традыцыйнага быту. А місіянэры толькі бунтуюць іх...»

Тут так вялося ад пачатку ды і цяпер таксама, «што хапанеш, то тваё!»

*

Я ўсё яшчэ трымаюся на сваёй гарэ, праз маленькае акенца паглядаю на мора-акіян. Дзіўное яно: то гладкае, бліскучае і прыгожае: а то шавеліцца і гамоніць — нібыта гаворыць вечныя пацеры, ці равець і пеніцца — аж стогне, б'ецца аб берагі, прычыняючы людзям немалыя шкоды. Праўда, здалёку яно тады яшчэ прыгажэйшае!

А ў мяне у хатцы таксама чыстая паэзія: часамі камень уляціць праз вакенца ў хатку. Як не трапіць у галаву, дык я дужа рады. Але ня трэба ўсяго дрэнна тлумачыць, бо можа добрыя суседзі хочуць праканацца ці я яшчэ жывы?... Гэта, бачыце, мілыя Чытачы, наша дарагая Бразылія!

**В. Небядовіч**

*

Дарагі Сп. Рэдактар,

Рым, 5. IX. 1968.

Сардэчныя прывітаньні з Вечнага Гораду! Ехаў праз Францыю: Парыж мне вельмі спадабаўся сваім далікатным адчуцьцем эстэтыкі, нават і ў падземцы. Бачыў там даволі прыемную рэкляму вопраткі школьнікаў, І менш парнаграфіі чым у Лёндане.

У Рыме прабываю ўжо больш двух тыдняў. Здаецца, што ўжо шмат чаго бачыў, але яшчэ больш асталося. Захапілі мяне старыя базылікі сваей прыгожай архітэктурай і маляўнічай мазаікай. На агляд базылікі сьвятога Пятра пасьвяціў два дні. Кожнага яна ўражае і хвалюе сваею вялізарнасьцю і красою, дык і ня дзіва, што народ з усяго сьвету тоўпіцца каля яе і ў ёй — ад нізу да самага верху! Штодня ўвесь пляц перад сьв. Пятром застаўлены самаходамі.

Удалося адведаць катакомбы сьв. Калікста. Тут цэлы лябірынт вузкіх, але высокіх калідораў, якія разыходзяцца ў-ва ўсіх напрамках адзін пад другім — глыбока да 20-ці мэтраў. Калі злучыць калідоры ўдаужыню, дык вынесла-б 18 кілямэтраў! Пахавана там соткі тысяч першых хрысьціянаў. У меншых катакомбах сьв. Сэбастыяна налічалі да 175 тысяч пахаваных!

Дык вось аглядаю і мімаволі пераношуся думкай у часы першых вякоў Царквы: бачу тых людзей, як перабягаюць гэтымі калідорамі або моляцца ў капліцах пры гробах мучанікаў, якіх толькішто пахавалі. І ў маіх вачах мігцяць тыя аліўныя лямпачкі, што паказвалі напрамак вернікам-хрысьціянам тых адлеглых часаў...

Усё тут дыхае вялікай сур'ёзнасьцю, глыбокай верай нова-ахрышчаных людзей, іх гарачай любоўю да Хрыста і рашучай гатоўнасьцю аддаць за яго сваё жыцьцё. Чым яны жылі і чым былі праняты, паказваюць малюнкі і надпісы на сьценах.

Запала мне ў сэрца думка, каб больш сабраць матар'ялу пра катакомбы і апісаць дакладна, як яны на гэта заслугоўваюць.

Дальш, аглядаючы Форум Романум, я спасьцярог, як паганства тут уступала хрысьціянству свае пазыцыі і як паганскія сьвятыні пераменіліся ў хрысьціянскія. Так у прыгожую старую форму ўваходзіў новы зьмест, новае жыцьцё. **а. Ф. Ж.**

# З беларускае прэсы

НАВІНЫ З БЕЛАРУСІ, № 13 (108), 15 ліпеня 1968, Нью Ёрк.

НАВІНЫ З БЕЛАРУСІ, № 14 (109), 31 ліпеня 1968, Нью Ёрк.

НАВІНЫ З БЕЛАРУСІ, № 15 (110), 15 жнівня 1968, Нью Ёрк.

НАВІНЫ З БЕЛАРУСІ, №16 (111), 31 жнівня 1968, Нью Ёрк.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС, № 161, Чэрвень, 1968, Торонто, Онтарыо.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС, № 162, Ліпень, 1968, Торонто, Онтарыо.

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ І МАСТАЦТВА, Абежнік № 14, Чэрвень 1968, Нью Ёрк.

БЕЛАРУС, год XVIII, № 135-136, Ліпень-Жнівень, 1968, Нью Ёрк.

ВЕСТКІ З КАНАДЫ, Торонто.

Тут паведамляецца, што ад пачатку сакавіка ў Публічнай Бібліятэцы Нью Ёрку была адчынена вялікая выстаўка на 450 ўгодкі беларускага друку. Выстаўка трывала 5 месяцаў. — А тымчасам у Маскве ані ўгодкаў беларускага друку, ані слаўнага нашага вучонага др. Фр. Скарыны «не заўважылі», хоць якраз у бібліятэках Масквы сабрана 25 Скарынавых кнігаў...

Чаму яны «не заўважылі»? Відаць, трудна было ім прызнацца, што беларускі друк апярэдзіў расейскі на паўвеку; а дасюль гаманілася, што ўсю культуру і навуку беларусы атрымалі ад Расеі, — а было наадварот!

*

ПЛЯТОН, ВЫБРАНЫЯ ДЫЯЛЁГІ, *Абарона Сакратаса, — Крытон-Файдон.*

З грэцкага тэксту на беларускую мову пераклаў, папярэдзіў уводзінамі і агледзіў інтэрпрэтацыяй ЯН ПЯТРОЎСКІ. 1967. Накладам Беларускае Друкарні.

Кніга — такая паважная зьместам, што трэ было паклапаціцца, каб звонку выглядала салідна, што якраз адпаведна і зроблена.

Адносна перакладу: праца праведзена вельмі салідна, мова датасавана з крыху паўдзённа-беларускім дыялектам, што зусім ня выклікае ніякага дысанансу, а наадварот — гучыць вельмі прыемна. Адчуваецца, што перакладчык меў немалыя труднасьці з вынаходам адпаведных тэрмінаў у філязофскай тэрміналёгіі, аднак выйшаў з гэтага з надта памысным вынікам.

Крыху сумневаюся, ці ня лепш было-б усё-ж ужываць формы грэцкіх назваў скарочаныя, проста пішучы «Сакрат, Эхекрат, Мэлет...», так як ужываліся імёны «Плятон, Крытон, Файдон»?

Наагул праца выканана вельмі трудная, але дужа ўдала. Беларускае грамадзтва неспадзявана збагацілася ў сваей беднай культуры, зрабіўшы рашучы крок наперад!

«ПЛЯТОН» — Кніга годная, каб кожны эмігрант пастараўся дабыць яе найхутчэй: знайдзе ў ёй нямала глыбокіх думак, якія на працягу 24-х стагодзьдзяў цешылі і ўзбагачалі людзкія душы і цэлыя народы.

---

ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ

ТЭСТАМАНТ БІСКУПА ІГНАТА СЬВІРСКАГА. Нядаўна памёр у гор. Седльцы ў Польшчы біскуп Сьвірскі. У тэстаманце распарадзіўся: «У спадку па мне ніхто нічога не атрымае, бо прыехаўшы ў Седльцы, я нічога вартаснага ня прывёз і ніякае ўласнасьці тут не здабыў» і ўсё« «раздаваў найбольш патрабуючым». І прасіў, каб па сьмерці адзелі яго ў бялізну і альбу. Ані сутаны і ботаў не накладаць і ані арнату, ні біскупскага пярсьцёнка, ні мітры. «Хоць — кажа — прадпісы для біскупаў ёсьць іншыя, але яны не абязваюць у часе вялікага прасьледу Касьцёла і вялікае нашае беднасьці. Труна мае быць толькі драўляная з простых сасновых досак і немаляваная. Падчас набажэнства ў касьцеле ня ўзносіць яе на катафал, а толькі паставіць унізе, а па рагох запаліць чатыры сьвечкі».

«На магільніку пахаваць на апошнім мейсцы. Вельмі прашу на маей магіле не ставіць ніякага помніка, ані пліты, ніякага крыжа іншага, апрача драўлянага... Каб на маім пахаваньні ня было ніякае прамовы — ані казаньня, ані аб'яўленьняў, ані пісаньня ў газэтах».

«Апрача таго прашу помніць у малітвах...».

*

ЛЕТУВА. Уканцы 1967 г. памёр былшы каталіцкі сьвятар, прафэсар Іонас Рагаўскас, маючы 60 гадоў. Як прыйшлі бальшавікі, ён адрокся ад Царквы і ад веры: стаў выдатным антырэлігійным пісьменнікам і дзеячом. Напісаў шмат бязбожных артыкулаў і выдаваў кніжкі, з якіх былі найбольш ведамыя: «Ite, missa est!», «Не хачу неба!». А пасьля ягонай сьмерці астаўся вялікі раман «Agnus Dei» (недакончаны).

Па сьмерці Рагаўскаса ў Савецкім Саюзе надта яго хвалілі і пісалі, што памёр упартым бязбожнікам.



А мы скажам, што Бог ведае, як ён спаткаў сьмерць? бо якраз гэтакія людзі даволі часта чуюць небасьпеку душы і прабуюць навярнуцца, але іх таварыства звычайна не дапускае сьвятароў да такіх няшчасных. — Калі Рагаўскас рызыкаваў цьвярдзіць — «Не хачу неба!», дык пэўна яму гвалтам неба не далі.

---

### 1000-АЯ ЛЕКЦЫЯ

РАЗАНСКАЯ вобласьць, саўгас Ліпягоўскі. — На фото бачым: чалавек вельмі запрацаваны, адданы справе — аж высахшы ад зяняткаў!

Гэта П. Н. Карніцкі, лектар-атэіст, які чытае ў саугасе тысячную лекцыю супраць рэлігіі. Хіба ніводзін манах, ні місіянэр так не працуе дзеля збаўленьня людзей, як гэты фанатык матаеўцца дзеля згубы людзкіх душаў, — у калгасах, у саўгасах, у школах, на мітынгах і на зборках...

Пэўна зьдзёр ужо сабе горла і занудзіў вялізныя грамады людзей, дый задурыў сабе галаву, бязупынна паўтараючы адно й тое?!

За такое геройства сапраўды заслужыў сабе некалькі медаляў і тытул бязбожнага «вялікамучаніка»!

(З часапісу «Навука і рэлігія», № 10. Кастрычнік, 1966).

---

## Вялізарнае сьвінства

*(Сучасная байка)*

Сьвіньня раз з парасятамі —
(Служыла ім ахвота!) —
З нагамі, разам з пятамі
Палезьлі ў Прагу праз балота.

Загразьлі там глыбока —
Амаль да вока —
Вышэй
Вушэй!
Там грэлі душы й целы — .

Качаліся — купаліся
І так усмакаваліся, —
Як ў мёдзе там сядзелася —
Вылазіць не хацелася.
Аж арамат біў на сьвет цэлы!

Сьвіньня крычыць: — До' будзе,
Бо ўбачуць людзі!

— Цяпер ім скажам усімчыста,
Што мы ад роду чысты —
Мы — камуністы...

*

Гэй, камуністы ўсяго сьвету,
З Масквы бярыце мудрасьць гэту:
Каля Крамля хто абатрэцца,
Па сьвінску чыстым астаецца!

*В. А.*

*Ніл Гілевіч*

# Размова з векам

*Новыя вершы паэтаў Савецкай Беларусі*

Век атама,
Век міжпланетных ракет,
Біёнікі і кібернетыкі.
Тваё нараджэнне вітаючы,
свет,

Не думаў, што будзеш ты гэтакі.
Што зробіш настолькі выразнай мяжу
Паміж чалавекам і нелюдзем,
А сам усумнішся: «Каму я служу?
Прагрэсу ці гібелі ўперадзе?»

Давай разбяромся.
Не бог і не цар,
Я ўсё ж казяўкай не чуюся.
Спакойна ўзіраюся Месяцу ў твар —
На вымпел Радзімы любуюся.

Разгон і размах твой мне добра вядом,
На «цуды» не лыпаю дзіўненька,
Калі і бабулям ракета — свой дом,
Каб толькі была з халадзільнікам.

І славяць твой поступ на ўсе галасы
Паэты з намерамі добрымі,
Хоць труцяцца рэкі,
І гінуць лясы,
І гусне паветра мікробамі.

Не хочуць у радасць трывогу ўкліняць,
Пытаю: а што, як спахопяцца
І стануць аднойчы цябе праклінаць
У рыфмах нянавісці
Хлопцы?

Ты — жорсткі і хцівы.
За ўладай зямной,
Як звер за здабычаю, гонішся.
Гатовы маліцца асобе адной,
З мільёнамі не цырымонішся.

Ты смерць вырабляеш такую штодзень,
У атаме грозным спрасоўваючы,
Што часам уявіш — і страшна глядзець
У вочы дзіцячыя сонечныя.

У мяліцы жахаў тваіх і пагроз
Даўно нашы нервы кудзеляцца,
І лечаць мужчыны праклятых неўроз —
Спакою шукаюць надзейнага.

А дзе яго знойдзеш —
Жаданы спакой?
Няма ўжо такога зацішку,
Куды б не даносіўся водгалас твой,
Дзе мог адпачыць бы хоць крышку.

Ты голас пратэсту майго заглушыў
Сваім мефістофельскім рогатам.
Табе выгадней, каб я быў без душы —
Нямым і пакорлівым робатам.

Ты хочаш зрабіць і з мяне аўтамат.
Не, так мы не сыдземся мірна.
Павек не згаджуся прымаць твой загад
Машынаю запраграміраванай!

Ва ўсім застануся сабою, ва ўсім:
У думках, у словах, у чыннасці.
Хіба што зраўняецца з сэрцам людскім
У гневе, у ласцы, у шчырасці?..

Спыні ж ты
Свой наступ сляпы на мяне!
Апомніся, век, і задумайся.
Інačай нас гора з табой не міне,
Мы моцна з табой набядуемся.

(Полымя, № 5, Травень 1968)

# *Паважныя жарты*

САВЕЦКІ АТЭІЗМ:

*Агітатар*: — Эй, бабка, кідай маліцца, бо няма да каго! — Бог памёр, а чэрці паздыхалі . . .
*Бабка:* — *А ты*, сынок, ня бойся! — Хрыстос Уваскрос, — атэісты падохнуць! . .

*

НОВАЯ ХВАРОБА:

*Фабіян:* Ці ведаеш, што Нассэр паехаў у Маскву лячыцца?
Кассіян: — Ад чаго лячыцца?
*Фабіян:* — Ад Ізраіля!
*Кассіян:* — Ну, лепш, каб Егіпет лячыўся ад Нассэра! . .

*

САВЕЦКАЯ ДРУЖБА:

*Брэжнёў* да *Дубчэка:* — Пачнём, брат, сардэчную нараду!
*Дубчэк:* — Ці пры помачы «братэрскіх» танкаў?

*

ПОЛЬСКАЯ ДРУЖБА:

*Гамулка:* — Прыносім Вам пацалунак супакою.
*Дубчэк:* — Ці так як Юда цалаваў Хрыста?

*

НЕМЕЦКАЯ ДРУЖБА:

*Ульбрыхт:* — Давайце жыць па суседзку!
*Дубчэк:* — Так воўк гаманіў да авечак і . . . Гітлер — да нас . . .

*

МАСКОЎСКАЯ «ТРОЙКА»:

*Брэжнёў:* — Ну, я зноў сьпяшаюся ў Прагу!
*Касыгін:* — А што так скора?
*Брэжнёў:* — Гаспадар, як пачне скаціну рэзаць, дык мусіць дакончыць. — Дык і я мушу чэхаславакаў д а р э з а ц ь . . .
*Падгорны:* — Так, гэта было-б нягуманітарна пакідаць іх недарэзаных: нашто-ж маюць дарэмна мучыцца?

*

Л е к т а р : — Эй, бабулька! як я ўважаю, ты вельмі багамольная . . . І якая табе карысьць з вялікіх малітваў? — Я — атэіст, а сонца сьвеціць і дождж ідзе таксама мне як і табе.

Б а б к а : — О, не! не таксама: мне сонца і дождж — ад Бога, а табе ад каго? Ад Маркса ці ад Леніна? . .

Л е к т а р : — Прырода сама родзіць: яна мае сілу ад сябе самой.

Б а б к а : — А прырода ад каго бярэ сілу?

Л е к т а р : — Мне — ад прыроды.

Б а б к а : — Значыць, мы з табой верым аднолькава. Але мой Гаспадар і Айцец ёсьць разумны Усёмагутны Бог. А твая Матка — Прырода і сьляпая, і глухая і неразумная. — Дзеля таго я і бага-мольная. — А ты будзеш каму-намольны?

*

ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ?

Каб нашыя Чытачы не ўвайшлі ў памылку, мусім выясніць:

На абразку бачым жудасны малюнак, але гэта ня ёсьць БРЭЖНЁЎ, што мае задраную галаву; а той, што грае на дудзе — гэта ня ёсьць ДУБЧЭК! . .

Але тут паказаная страшэнная атрутная гадзіна — кобра, як называюць «акулярніца»: яе ўкусы сьмяротныя. Аднак яе можна ўціхамірыць: гэта якраз і праводзіць індыйскі заклінальнік,



які грае ёй на дудзе. Зьмяя заслухаецца, а пасьля задрэме і засьне, не зрабіўшы ніякае шкоды.

Так даюцца супакоіць і прыручыць самыя дзікія зьвяры, як тыгры і львы і інш. Але з людзьмі бывае горш: не даюцца абязброіць ні ласкай, ані просьбай, бо душа іх наскрозь затрута ненавісьцяй.

---

ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Сп. К. Ч. ў Аўстраліі: Усё ды атрымалі. Вельмі дзякуем!

Сп. Я. М. Англія: За прысланыя £ 5:0:0 вельмі дзякуем!

Сп. а. Я. Т-ч. Чыкага: Артыкул атрымалі, але на № 5 ён спозьнены. Дзякуем!

Сп. М. Н. Мэльбурн: Ліст атрымалі. За весткі дзякуем, «Папраўку» друкуем.

УВАГА! Паваж. Чытачоў паведемляем: падпіску на часапіс квітуем кожнаму асабіста. Перамену адрасу просім зара падаваць у рэдакцыю, каб пасыланыя паасобнікі не марнаваліся. Просім прысылаць важнейшыя весткі з мясцоў аб падзеях у эміграцыі.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

*Рэдактар шчыра Вас вітае*
*У эмігрантскай грамадзе,*
*Хоцъ асабіста ўсіх не знае! —*
*(Восъ нумар 5-ты ўжо ідзе . . . )*

*А дружба ўсё расъце між намі. —*
*Рэдактар — просты чалавек:*
*Ён сум і радасъцъ з Чытачамі*
*Дзяліў заўсёды праз свой век.*

*У нас ёсъцъ Прыяцелі шчыры —*
*Дай Бог здароўе ім усім!*
*А з іх выдатных тры-чатыры,*
*Сапраўды, з сэрцам залатым.*

*Супольна, дружна «Шлях» будуем —*
*Наш беларускі вольны «Шлях»:*
*Крывыя съцежкі мы зраўнуем —*
*Ёсъцъ мера простая ў руках. —*

*Але ёсъцъ людзі бесталковы,*
*Што простым шляхам ня ідуцъ:*
*Чытаюцъ, праўда, нашы словы,*
*А блуднай съцежкаю паўзуцъ . . .*

*Скупы падпіскі нам не плаціцъ,*
*А то пракурыцъ, то прап'е:*
*Сябе зъбіраецца збагаціцъ,*
*А Бог прыбытку не дае!*

*Такі прайграе — страціцъ болей:*
*Нармалъным шляхам трэ' хадзіцъ. —*
*Жывём мы ўсе у Божай школе:*
*Хрыстос даў прыклад, як нам жыцъ.*

Рэдактар Я. Г.

---

## З Ь М Е С Т



---


Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.